№ 2-3 (7-8)
жнівень-верасень
1997 г.
Выдаецца са сьнежня
1994 года
Рэдактар -
Уладзімер Скрабатун

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ



незалежная беларуская газэта. FREE HLYBOKAJE. HLYBOKAJE LIBERTA. FREI HLYBOKAJE. BRIVAIS GLIBOKAJE.

## KULTURNY SKRAŹNIAK

Млее вясна ад пякельнага сонца,
Цячэ ручаямі са стрэх.
На пляцы Касьцюшкі чароўнае ронда
Топіць халодны сьнег.
Гішпанкі ў Глыбокім таньчаць танга,
Ангельцы ў бары пьюць наша пітво;
І ты - карабель у моры ўсьмешак -
Нырцом кідаесься ў гэта цяпло.
І ўсё дзеля нас, ніводнае хмары,
Бязьмежжа дарог - культурны скразьняк.
Такая амаль геданічная мара...
У горле гаркавы камяк.

*А. Х.*





# ЁСЬЦЬ МЫ Ў СЯБЕ

Гісторык і аўтар кнігі "Глыбокае" Отта Гедэман, упершыню наведаўшы наш горад у траўні 1935-га, пісаў потым, што "ўбачанае ў Глыбокім не паддаецца пераказу... Сэрца абывацеля б`ецца аднолькава ў Глыбокім і ў Кракаве, ёсьць мы ў сябе..."

Паляк паводле мэнталітэту, народжаны на Беларусі ў в. Мішчызна Рэчыцкага павета, датчанін з паходжаньня, пачуваўся ў Глыбокім бы ў Кракаве. Тады тут была Польшча. Беларускі го-рад Глыбокае быў саступлены ёй 12 кастрычніка 1920 года згодна Рыскай мірнай дамове паміж бальшавіцкай Расеяй і адроджанай Польскай дзяржавай.

Тут панавала польская ідэялёгія, польская дзяржаўная палітыка, польская адукацыя. Прайшло б яшчэ гадоў дванцаць і ў Глыбокім не засталося б ніводнага беларуса, усе б пачуваліся палякамі і, напэўна, аб гэтым і ніхто б дужа не шкадаваў. Тут стаяў бы пекны горад Głębokie.

Французы размаўляюць і думаюць па-француску, шануюць свае традыцыі й культуру. І што? Вы думаеце яны вымерлі з гола-ду? Ходзяць босыя й разьдзетыя? Не! Яны сказалі: ёсьць мы ў сябе! Французы жывуць у прыгожай і заможнай краіне, езьдзяць на шыкоўных аўтамабілях, кураць файныя цыгарэты, маюць годнае жытло, ядуць здаровую ежу, ходзяць па нармальных тратуарах.

Няхай бы тыя французы задумалі б усе разам пачаць размаўляць па-расейску! Заржавела б іхняя Эйфелева вежа і здалі б яе тады на мэталялём. Нешта ня надта ахвочыя й немцы, італійцы ды японцы пераходзіць

працяг на старонцы 2

# ЁСЬЦЬ МЫ Ў СЯБЕ

на “великий и могучий”. Капцы былі б іхняй нямецкай акуратнасьці й пунктуальнасьці. Японцы бачылі б тады не “Sony”, а сон.

Справа не ў расейскай мове, як такой, ёсьць каму на ёй размаўляць без французаў. Справа ў іншым. Хочацца быць гаспадаром ва ўласным доме, а цябе зноў заганяюць у калгас. Зьявіліся людзі, што сьцьвярджаюць, нібы ў сьвеце ёсьць толькі дзьве вялікія мовы - расейская й ангельская, а на беларускай ня можна нават і думкі выказаць. Хай бы тыя расейцы ўсім кагалам загаварылі па-ангельску, а ангельцы па-расейску. Не!

Атрымліваецца, можна размаўляць у Францыі па-француску і жыць нармальна, а ў Беларусі ня трэба размаўляць па-беларуску, бо тады, крый Божа, добра зажывуць. Уцямяць усе беларусы раптам, зразумеюць па-беларуску, што “ёсьць мы ў сябе”. Скажуць усе: “Мы, беларусы, павінны жыць годна, езьдзіць у шыкоўных аўтамабілях, піць добрыя віны, мець годнае жытло, адпачываць на Канарах...”

Ці ёсьць мы ў сябе? У Глыбокім. Пры кожным рэжыме можна заставацца чалавекам і рабіць сваю справу. Ксёндз Булька ў сваёй парафіі будуе Эўропу. Цяпер у Мосар езьдзіць на экскурсію ўся Беларусь. Дырэктар “Аграпрамбанка” пабудаваў новы прыгожы гмах, добраўпарадкаваў тэрыторыю. Зараз у Глыбокім ёсьць мейсца, хаця й не другі Мосар, але яно прываблівае позірк любога мінака. Хтосьці не шкадуе грошай, хоць і не сваіх, а дзяржаўных, але робіць прыгажосьць для ўсіх, пераробляючы офісы й гандлёвыя залі пад эўрастандарт. На дзяржаўных крамах, як і раней шыльды пішуцца па-нашаму, па-беларуску. Начальства ўвекавечыла памяць славутага земляка, авіяканструктара П. В. Сухога файным манумэнтам, напэўна яно яшчэ больш бы зрабіла ў гэтай галіне, каб не эканамічная й палітычная сытуацыя ў краіне.

Тут ёсьць зямля беларуская. Ня трэба чакаць таго часу, а ён прыйдзе, калі цябе запытаюць:”Дзе быў ты тады, калі Беларусі было цяжка?” Чаму не пісаў шыльды на сваёй камэрцыйнай краме па-нашаму, чаму дапамагаў фальсыфікаваць вынікі выбараў і рэфэрэндумаў, чаму нічога не зрабіў для горада й раёна, калі меў уладу, чаму зь пенай у роце крычаў, што твой “рабёнак” павінен вучыцца толькі па-расейску, калі сам ёсьць беларусам, чаму ляжаў, загараючы на возеры, калі трэба было йсьці на выбары?..

Ёсьць мы ў сябе? Будзем! Калі няма беларускай ідэялёгіі, беларускай дзяржаўнай палітыкі - зробім сваю, глыбоцкую ідэялёгію і палітыку. Ёсьць мы ў сябе, у Глыбокім!

**Нацыяналіст**

# ПРОСТАПАД

Адзін мой вучань ня мог вымавіць мудрагелістае матэматычнае слова перпендыкуляр. Кожнага разу ён мусіў паўтараць яго сама мала два разы. Урэшце я ня вытрымаў і прапанаваў: “Слухай, Пятрусь, нашыя землякі В. Ластоўскі і К. Дуж-Душэўскі прыдумалі цудоўны беларускі адпаведнік - простапад. Г. зн., прамая, што падае на другую прамую проста, пад прамым вуглом. Дазваляю табе карыстацца ім.” Уся кляса ухвальна наставілася да новага слова.

А ў мяне зь ім свой клопат.

Простапад - тая лінія, уздоўжкі якой мусяцьісьці сёньня настаўнікі-беларусы. Простапад да лініі-курсу, якога пільнуецца цяперашняе пэдагагічнае чынавенства. Рупнасьць апошняга мае плён, прынамсі вонкавы, - крочыць у зададзеным кірунку піянэрская дзятва ў чырвона-зялёных гальштуках. Крочыць шляхам абрыдлай руціны і нуды. “Кто там шагает правой?” Адно барабанаў не чуваць. Жыцьцё нібы спынілася 50 гадоў таму. Але хто ачольвае калёну? Вядома, настаўнік. Той самы, які яшчэ ўчора вучыў іншым сымбалям. Заўчора таксама іншым. Божа, у што ператварае існая ўлада сваіх служкаў...

23 траўня, у дзень падпісаньня статута саюза Беларусі з Расеяй, у школу быў спушчаны з гары цыркуляр - тэрмінова правесьці ў клясах “урок славянскай пісьменнасьці”. Уяўляеце, пра якую пісьменнасьць загадывалася лухціць дзецям! І нехта ж лухціў.

Школа пры таталітарным рэжыме ўзгадоўвае вучняў з канфармісцкай сьвядомасьцю, якія затым вырабляюцца ў настаўнікаў-канфармістаў. За Сталіным яны мусілі цьвердзіць дзецям аб тым, што Канстытуцыя СССР - найдэмакратычная ў сьвеце. Па сьмерці тырана тыя ж настаўнікі пачалі навыперадкі ўхваляць новую канстытуцыю да таго часу, пакуль не канаў чарговы генсэк. Цяпер замест генсэкаў сталіся прэзыдэнты і яны таксама ўважаюць сябе выбітнымі адмыслоўцамі ў галіне законатворчасьці. І твораць немаведама што. А настаўнікі зноўку кажуць пра перавагі “асноўнага закона”. Бо адноўлены колішнія палітінфармацыі. Праўда, найменьне зьмянілі - інфармацыйная гадзіна. Якая ж гэта марная справа - тлумачыць палітыку ўлады, што ня здольная прадукаваць добрае й вечнае!

У выніку сёньня мы маем тое, што маем: чарговая хваля Адраджэньня зыйшла ў пясок. Сядзім гаротныя ў скрусе і летуценім: вось каб Бог даў лепшае начальства, тады б Адраджэньне само пайшло. А нікуды, спадарове, яно й не пайшло б апроч таго ж пяску. Хіба начальства мусіла ствараць ТБМ? Згадайма, як бяздарна гэта рабілася. Сабралі настаўнікаў беларускай мовы і ўсіх гуртам залічылі ў ТБМ. Дзе цяпер тыя аматары мовы, якія анічога для арганізацыі і не зрабілі? Хіба хто замінаў ім пазбавіцца саўковых комплексаў праз далучэньне да дэмакратычных і культурных каштоўнасьцяў падчас гарбачоўскай адлігі?

Падмурковым прынцыпам для кожнага пэдагога ёсьць інтэлектуальная чэснасьць.

Калі Аўстра-Вугоршчына распачала I сусьветную вайну, то ўвесь культурны сьвет быў шакаваны, бо цяжка спалучалася ў сьвядомасьці краіна кайзэра з краінай Гётэ, Бетховэна і Канта. Тады нямецкі ўрад дзеля сваёй рэабілітацыі зьвярнуўся з адозвай да слынных дзеячоў навукі й культуры. У ёй адпрэчваліся ўсе абвінавачваньні. Шмат хто праз свае патрыятычныя пачуцьці падпісаў адозву. Зьвярнуліся да самага вядомага ў сьвеце матэматыка Д. Гільбэрта. Ён прагледзіў сьпіс цьверджаньняў, кожнае зь якіх пачыналася са словаў “Гэта няпраўда, што...”. І паколькі ён быў няўпэўнены ў слушнасьці ўсіх выказваньняў, то адмовіўся паставіць свой подпіс. Ён быў сапраўдным настаўнікам: і спэцыялістам і патрыётам. Патрыётам культурнай Нямеччыны.

Адзін мой знаёмца, калі яшчэ нашыя хлопцы гінулі ў Аўгане, вучыў на тых самых палітінфармацыях: памятайце, бываюць у жыцьці моманты, што трэба пацэліць вышэй галавы, не выконваць злачынных загадаў. Ён таксама патрыёт. Сваёй Беларусі. А патрыётамі якой Беларусі ёсьць мы - сёньняшнія пэдагогі?

Мы будзем вечна блукаць у лябірынтах свайго сумленьня, калі не ўсьвядомім урэшце свой катэгарычны імпэратыў : ня хлусіць дзецям і засяваць нашу ніву сапраўды мудрым, добрым, вечным.

**Шкаляр**

## ПАРСЮЧОК



Сусед завітаў сумны. Заклапочаны.
- Што страслося? - пытаю я.
- Ведаеш, - кажа ён, - сабраў грошай колькі мог, пазычыў у суседзяў (і ў мяне 100000) і купіў на базары парсючка за семсот тысячаў. Трэба ж нейкую шкварку сваю мець! Праз тры дні, сёньня, парсючок здох. Відаць па-усяму, хворага прадалі мне. Ніколі ў мяне ня дохлі парасяты, тут - на табе! Хоць ты з гора пайдзі й напіся!.. Няма ў людзей ніякай "совесьці": купляюць хворых парасят на вагу ў калгасах і сьвінакомплексах, падлечваюць і вязуць у Глыбокае на базар. Людзі купляюць, а што зробіш, трэба гадаваць. Каб сваё мяса мець, у магазыне ж дорага. Шмат у каго з глыбоцкіх дохнуць парасяты праз тры, пяць, дзесяць дзён. Дарма выкінутыя грошы.

Я абяцаў яму, што гэтую праблему падыму праз раённы й незалежны друк, скажу сваё разуменьне праблемы, бо яна хвалюе ўсіх у Глыбокім, хто займаецца сьвінагадоўляй.

Вэрсыя "Вольнага Глыбокага ёсьць такой. Калі тэлевізійны, альбо гадзіньнікавы завод дае год ці два гарантыі на сваю прадукцыю і ў гэты тэрмін ён нясе адказнасьць, робіць гарантыйны рамонт, то чаму ў нашым раёне не прыняць такую пастанову: прыватнік, які на рынку гандлюе маладняком парасят (альбо цялят) павінен даваць пакупніку цэтлік, на якім напісана імя і прозьвішча гандляра, адрас, кошт тавара, пячатка й подпіс вэтэрынарнага лекара, які сьведчыць, што "тавар" знаходзіцца ў здаровым стане. На цэтліку павінен стаяць надпіс, які паказвае тэрмін, калі пакупніком могуць выказвацца прэтэнзіі да гандляра аб стане здароў'я парася (цяля). Гэты тэрмін павінен быць зацьверджаны галоўным ветурачом раёна. У выпадку падзяжа маладняка ў пакупніка ў вызначыны тэрмін, выклікаецца ветурач і вызначаецца віна гандляра альбо пакупніка і абскарджваецца зварот коштаў праз суд.

Трэба ўрэшце паставіць усе кропкі над "і", гэта датычыцца ўсіх. Калі няма гэтага ў дзяржаве, то хай будзе ў нас. Потым наш вопыт перайме ўся краіна.

**Мікола Самавіты**

## ЦЬВЯРОЗЫ

Сёлета пачаў нарэшце працаваць "ляжачы" Глыбоцкі кансэрвавы завод - але ня дзякуючы намаганьням прэзыдэнта, а за грошы "алкагольнага караля" Глыбоччыны сп. Акуленкі, чые справы ідуць надзвычай пасьпяхова. Сьведчаньне таму - і новы, удала пабудаваны ўнівэрсам "Він-кон", і плённае супрацоўніцтва Падсьвільскага вінзавода зь італійцамі, дзякуючы якому запушчана лінія па вытворчасьці італійскага віна "Сангрыя". Усёж-такі добра, што хоць нейкая галіна прамысловасьці працуе на цьвярозую галаву і цьвёрда стаіць на сваіх нагах.

Адчыніўся і пасьпяхова працуе так званы "безалкагольны" бар у ГДК. Задуманы ён быў з самай высакароднай мэтай - надаць глыбоцкай моладзі больш культуры і цьвярозасьці. Але нашыя вынаходлівыя падлеткі даказваюць, што дасягнуць адпаведнага танцам стану душы можна і з дапамогай піва.

Чарговая кампанія барацьбы за цьвярозасьць пашырылася і на дарослых - у выглядзе пакуль што "безалкагольных" гарадзкіх сьвятаў. На сьвятах, сапраўды, пацішэла. Але ці не вырвецца тая пара ў іншым мейсцы? Бо кацёл людзкой незадаволеннасьці досыць ужо перагрэты.

**Ліцьвіна**

## СЭНСАЦЫЯ

2500 гадоў таму нашу зямлю наведалі іншаплянэцяне. Ісус Хрыстос ізноў народзіцца ў 1994 годзе, а канец сьвету прыйдзе ў 11991 г. Гэтыя зьвесткі ўтрымліваюцца ў вядомых кумранскіх рукапісах - запісах на скураных скрутках, знойдзеных у 1947 годзе на беразе Мёртвага мора. Так сьцьвярджае французкі антраполяг, лінгвіст, дасьледчык Бібліі прафэсар Фэлікс Банжан - адзін з шасьці вучоных, якія вывучалі рукапісы па ўказаньні Ватыкану, дзе яны цяпер знаходзяцца. Навукоўцы пакляліся не агалошваць тэксты манускрыптаў, але Банжан парушыў клятву.

Паводле яго слоў, у скрутках паведамляецца, што 2500 гадоў таму на Зямлю прыбыла флятылія іншаплянэтных касьмічных караблёў. Яны ймелі форму дыскаў і, мяркуючы па апісаньнях, стваралі вакол сябе гравітацыйнае поле. У касманаўтаў былі велізарныя грушападобныя галовы й зялёна-кафэйна-шэрая скура. Майсей ня быў ні габрэям, ні эгіпцянінам, ні наогул чалавекам. Ён прыбыў на зямлю зь сябрам плянэты як пасланьнік Бога. Паводле слоў Банжана, у манускрыптах таксама ўтрымліваюцца гістарычныя прадказаньні, здольныя узрушыць сьвет. Так, на першую палову XX ст. "заплянавана" зьўленьне антыхрыста, апісаньне якога адпавядае зьнешнасьці Гітлера. Палёт на Месяц быў абяцаны ў 1969 годзе. Імёны касманаўтаў Наал і Эдэн (як вядома, імя Армстранга - Нэйл, а Олдрына - Эдвін). У 1994 годзе адбудзецца адраджэньне "ўсходняй дзяржавы", а ў 1997 годзе распадзецца другая сусьветная імпэрыя, разьмешчаная ў Азіі, за высокай сьцяной. Зь 2025 года для людзей пачнуцца шчасьлівыя стагодзьдзі без галечы й войнаў. Яны працягнуцца да 11991 года, калі наступіць канец сьвету на Зямлі, а выбраньнікі Бога адродзяцца як спэцыфічныя формы жыцьця на іншай плянэце, што па апісаньню нагадвае Марс...

"Праўда рана ці позна павінна стаць відавочнай. Пасьля шматгадовых ваганьняў я прыйшоў да высновы, што нікому нельга хаваць яе ад людзей", - заявіў Фэлікс Банжан на прэс-канфэрэнцыі ў Парыжы, якая выклікала буру ў навуковым сьвеце. З інфармацыйных ватыканскіх крыніцаў было атрымана пацьверджаньне кампэтэнтнасьці прафэсара: "Сапраўды, ён дасьледаваў манускрыпты. Яны былі скрыты Ватыканам з нагоды таго, што іх зьмест выкліча сусьветнае хваляваньне, а можа, і паніку".

Аб усім гэтым паведаміла ізраэльская газэта "Вести".

**Дасьведчаны**

# МЫ ПАМЯТАЕМ

Прайшоў час. Неяк на крысе суцешылася горыч ад паразы на парляманцкіх выбарах у гэты нешчасьлівы Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Не люблю лічбу 13. Не мая й ня наша гэта лічба. Не пашанцавала нам: ніводны кандыдат ад Народнага Фронта не прайшоў другога тура. Мы суцяшалі Л. Л. Цуран: што зробіш, ня толькі мы, але ўсе нашы кандыдаты прайгралі...

На адлегласьці часу ўспрымаецца ўсё, што адбылося, ня так скрушна, як здавалася. Бываючы ў розных кутках Беларусі, мне задавалі пытаньне:"З кім Ваш дэпутат?" - "Разам з Шарэцкім!" - "Малайцы, Глыбокае было заўсёды на вышыні!"

Мы прайгралі годнаму кандыдату! Ён не прадаў Беларусь! Я сустрэў Вячаслава Іванавіча Кажана ў Глыбокім. Казаў яму тыя самыя словы. "Добра, што нехта пра мяне яшчэ памятае!" - пажартаваў Вячаслаў Іванавіч.

Мы памятаем! Жыве Беларусь!

historia

*Павел Кажух нарадзіўся 9 XII 1909 г. у Пецярбурзе. Дзеяч рабочага руху, з 1928 г. член КПЗБ. Пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР арыштаваны энкэвэдыстамі, пакутваў у Беразьвецкай турме каля Глыбокага, цудам перажыў масавы растрэл вязьняў падчас іх эвакуацыі ў першыя дні нямецка-савецкай вайны. Свае ўспаміны аб гэтым злачынстве энкавэдыстаў Кажух апублікаваў у газэце "Жыце Варшавы" (7.04-1989). Ніжэй зьмяшчаем іх фрагмэнты ў перакладзе з польскае мовы.*

# ЭВАКУАЦЫЯ, ЧЭРВЕНЬ 41-ГА

Беразьвечча - маляўнічая мясьціна над прыгожым возерам з той жа назваю, на ўскрайку сасновага бору. Папольшчыны феадал Корсак пабудаваў тут у 17-м ст. паўлінаўскі кляштар сьвятых Пятра й Паўла. Настаў 1941 год, а я ўжо больш году сядзеў у панурых мурох гэтага былога кляштара. Храм, гаспадарчая забудова, цёмныя скляпы - усё перароблена дзеля патрэб зьніштажэньня чалавека. Мая камэра мела два мэтры шырыні і пяць даўжыні. Трымалі ў ёй усіх нас сорак восем чалавек, у гэтым памяшканьні, прызначыным для аднае асобы, што шукае духоўнага спакою.

Ужо віднела, калі пачуўся ад калідора хуткі тупат падкаваных салдацкіх ботаў. Эшалон? Прачнуўся я й слухаў, некаторыя вязьні таксама. Іншыя храплі й нешта мармыталі ў сьне. Сёньняшняя ноч была даволі спакойная, нікога не выклікалі на допыт, не ўпалохвалі растрэлам, высылкаю сям`і на пагібель у легярох. Чаму, што асаблівае здарылася?

Раптам чую, як падкаваныя боты набліжаюцца да нашае камэры, бо самыя стражнікі заўсёды хадзілі ў гумавых лапцёх, парobленых са старых шынаў, каб мы не маглі пачуць іх. Дзьверы з фыркатам расчыніліся. Мы ўбачылі салдатаў нутраных войскаў з аўтаматамі напагатове ды проціляхотнымі гранатамі. Няма часу нават, каб збаяцца; загадваюць нам зараз жа выходзіць з камэры, з "апранахамі на падворышча". Кожны хапае, што пад рукою, і выбягае ў калідор.

Сонца марудліва падымаецца на неба і бляклым сьвятлом праціnae ранішнюю імглу. Аднекуль чутны нейкія гукі. "Грыміць гэта, ці вайна?" Але! Пэўна вайна. Блакітнае неба крэмзаюць самалёты, злавесна рыкаюць маторамі. Дзякуй Богу, што гэта вайна, безь яе не пабачыць нам свабоды. Так думалі мы, вязьні.

Калі апаражнілі вузенькія катакомбы, узяліся фармаваць калёну пяцёркамі. Нядаўна арыштаваных падганялі наперад, а нас пакінулі ў канцы. Падворышча кляштара зрабілася цесным, каб усіх зьмясьціць у ім; накіроўвалі нас вакол будынка, каб выходзілі бакавым пераходам. Калі набліжаліся мы да муроў, выразна бачылі сьвежа ўскопаную зямлю. Налічылі восем вялікіх такіх месцаў; не было сумненьняў, што тут папрацавалі ўночы нашы апякуны. Інвалідны возік, якога не пасьпелі недзе адкінуць, валяўся пад мурам, бы сьведка зусім нядаўняй трагедыі, якая адбылася тут (ня думаў я, што неўзабаве даведаюся пра лёс ягонага ўласьніка). Выраўнялі нас у калёну, густа акружылі яе канваірамі з аўтаматамі і гранатамі, з палкамі. Прывялі сабак-ваўчугоў, зьявіліся коньнікі. Нікуды не ўцячэш! Я, усё-такі, не пазбываўся надзеі. Калі калёна працягнулася на кілямэтар які, камандзір канваіраў выгукнуў да нас: "Арестанты!!! Внимание!!! Шаг в сторону будет считаться как побег, конвойные будут стрелять без предупреждения! Колонна, шагом марш!!!"

Стомленыя голадам і прыдушаныя цеснатой у камэрах мы ледзь валакліся. Канваіры шалёна крычалі, баяліся нямецкіх самалётаў. Усё часьцей заставаўся за намі на дарозе труп, або нейкі плашч, ці то шапка, чаравікі... Сонца нелітасьціва прыпякала, а я ж паўтары гады ня бачыў яго. Дзеравянелі ногі, але ўспамагаў мяне страх, сіла ў прыродзе.

Калёна паменьшала ўжо толькі да ліку тых, хто быў яшчэ нядаўна арыштаваным, або маладым; іншыя ўтрупянелі на дарогах, у адхонах. Гоняць нас пераважна палявымі дарогамі, каб меньш людзей бачыла тое злачынства. Ну й каб у таямніцы. Злачыннасьці патрэбна таямніца. Апярэджваюць нас ганцы, якія тлумачаць навакольнаму насельніцтву, хто мы такія. Прыйшлі акольнікі, пасталі ўздоўж дарогі, якое нас гналі; стаялі дзеткі з каністрамі гатаванае вады для канваіраў. Калі праходзіў я каля падрастаючай дзяўчынкі, папрасіў у яе піць. Яна плюнула на мяне і сказала: "Кулю табе, а не вады, фашыст паганы!"

Устаў ясны ранак, сонца выходзіла з-за лесу. Мінула ўжо тры такія раніцы, калі пакінулі мы смуродныя камэры ў Беразьвеччы. Часамі праляталі нізка самалёты, і лётчык страляў з кулямёта. Іншы раз ляцелі яны высока, не відаць было апазнавальных знакаў. Тыя, што лямалі высока, не стралялі! Мінулі жалезны мост мы, і тады самалёты, што ляцелі высока, апусьціліся ды кінулі на мост бомбы. Нашы канваіры дадумаліся, што гэта добры момант, каб свае кулямёты накіраваць у наш бок. Было каля кілямэтра ад гэтага моста, на правым беразе Дзьвіны, за мястэчкам Сіроціна. Мой інстынкт падказаў мне, каб рынуцца не пасярэдзіне дарогі, але на бераг адхону. Калі стралялі па нас з кулямёта, я скаціўся ў той роў, і кулі ймчалі нада мною, не чапіўшы мяне. Мае сябры, нядолі, пакуль пасьпелі ўлегчыся на брук, ужо былі падкошаныя кулямі.

Ляжаў я на плячох, чуючы, як цэлыя раі куляў, бы ашалелыя осы, гудзелі хмарынкамі блізка твару. Ляжу, вось, і бачу, што адбываецца на шашы. Побач мяне дрыгаюць у сьмяротным танцы: адны адразу зьнерухомелі, відаць трапіла ім у сэрца, а іншыя ўскокваілі ўгору, распрасьцёршы рукі ў неба, просячы ўсемагутнага аб паратунку; а яшчэ іншыя спрабоўвалі пакорліва кленчыць ды хрысьціцца. Усіх іх выкошвала плойма гарачых куляў. Кулямёты застракацелі і раптоўна заціхлі. Зрабілася ціш, толькі паблізу дзерліся вароны. Калі хто трохі жыў, корчыўся ў канвульсіях, тых дабівалі з наганаў або прабівалі штыкамі.

Знаходзіўся я ў адхоне, ніхто не падыйшоў да мяне. Накідалі на мяне трупаў. Ад іх цяжару ледзь дыхаў. Чую, як каты бегаюць па шашы ды зьлічваюць: 1773-ці, і на гэтай лічбе спыняюцца. Была гэта найвышэйшая лічба, якую пачуў я. Запамяталася яна мне.

Праз некалькі дзён шчасьліва дабрыў я дамоў, дзякуючы помачы добрых, бедных людзей. У Беразьвеччы, ужо пад нямецкай акупацыяй, сустрэў я маці, якая шукала мяне сярод пабітых, бо ў падворышчы турмы знайшла яна маю фатаграфію. Людзі раскапалі тыя восем ямаў, у кожнай зь якіх ляжалі сотня закатаваных.

# СЬПЯКОТНЫ ЛІПЕНЬ

Надыходзіў ліпень 1944 года.

На Віленшчыне пачатак лета быў заўсёды атракцыйны. Рэкі, шматлікія азёры і сажалкі запаланяліся маладымі людзьмі на адпачынак і купаньне.

Аднак у тым годзе лета было зусім іншым ад папярэдніх. Высокае сонца стаяла на чыстым небе і не скупілася на пякельныя промні, як бы не хацела пацешыцца кожнае заклапочанае сэрца. А між тым, устрывожаныя людзі адчувалі надыходзячы з усходу жах. Дзённа й ночна чуваць было рэха далёкага фронту. Часам, калі ўсё супакойвалася на дварэ і стамляўся вецер, выразна даходзілі да вушэй адгалоскі надыходзячай буры... Уночы рэха было аднастайным, умераным і выдавалася, што цэпам б'юць па накавадлу.

Можа вайна паўзе дзесьці пад Вялікімі Лукамі, Віцебскам, Воршай і нешта бліжэй за Полацкам - вызначыліся мы ўсе.

Фронт тым часам штораз выразьней даваў знаць аб сабе. Першыя нямецкія аўтамабілі і цяжкія аўтацягнікі паказаліся на тракце Баторыя. Бяз панікі, спакойна, у арганізаваных калёнах, крытыя брэзэнтам аўтамабілі сунуліся на захад. Пазьней з усходу неперабраны тлум уцекачоў, так званых бежанцаў, хлынуў вірлівай ракой, спалоханы ўжо ўбачаным і з адчувальным страхам ішоў узбоччам тракту Баторыя і ўсякімі дарогамі палявымі і сьцежкамі. Пасевы ільну й збожжа, няскошаннай травы таптаті тысячы ног. Уцекачы цягнуліся на захад пешшу, на брычках і вазах. Ішлі нават прывязаныя да фурманак каровы. Бачылі як пішчаў парсюк, прывязаны шнурам за нагу, які вырываўся на возе, прыгнечаны таболкамі - відавочна, што такая язда яму не пасавала...

- То ўцякаюць расейцы й беларусы, якія былі на службе ў немцаў, - разважалі людзі па вакольных вёсках.

У Глыбокім жалосна тарчалі сілуэты комінаў на спалёных дамоўствах. Муры ацалелых дамоў страшылі ранамі вырваных сьценаў, пазапалых дахаў. Дзенідзе дагаралі яшчэ пажары, чуваць быў смурод ад спалёных цел людзкіх і не закапаных, якія безперашкодна раскладаліся ў сьпякоце ліпеня.

На рынку мястэчка віселі трупы нямецкіх жаўнераў. Уверсе, на бярозе, зьмешчаны быў надпіс па-расейску: "Подпальшчыкі мястэчка".

З трывогай паглядаем на вісельнікаў, не затрымліваемся тут доўга, адыходзім як мага далей ад таго мейсца.

Вайна як ураган павыварочвала дрэвы, стаптала наўкольнае ўлоньне, спаліла пабудовы, спляжыла гусеніцамі брук на вуліцах і вызлабіла вырвамі дарогі і палі. Пакалечыла пяруном гарматных выбухаў і шрапнэльлю дрэвы ў лясах, парках і гародах. Накідала трупаў, над якімі насіліся мухі і авадні. Насыціла паветра смуродам ад раскладаўшыхся цел, людзкіх і конскіх. Вайна пазразала коміны на ацалелых фабрыках і дамах, забарыкадавалі жалезьзем разьбітых машын, трактараў, танкаў гасьцінцы й дарогі з Глыбокага на захад. Вецер нёс пах сьвежай людзкой крыві, пораху і папялішчаў ад згасаючых пажараў.

Толькі возера блішчэла сваім люстрам у сонцы так, як даўней. Здавалася, што толькі яно не спазнала ад вайны ніякай крыўды. Ацалелыя дзеці, замурзаныя, босыя разгарналі кіямі згасаючы попел.

- Чаго шукаеце? - запыталі малую дзяўчынку з кужэльнай як лён галавой. Дзіця падняла сваю сьветлую галоўку, паглядзела на мяне яснымі, чыстымі вочкамі і нічога не адказала.

-Тут ня мейсца на забавы, - кажам ёй.

Змучаныя дзеці старанна разграбалі попел. Даведаліся ад людзей, што пагарэлішча было домам той малой дзяўчынкі. А ў пажары згарэла яе маці. Дзяўчынка цудам унікла сьмерці, бо маці выкінула яе праз вакно з вогненнага дома. Сама ўжо не змагла, бо абрынулася на яе палымнеючая столь.

Цэлае мястэчка ўяўляла сабой жалосны выгляд над чорнай пустэльняй папялішчаў і спалёных дамоў. Як даўней, узвышаўся са сваімі ацалелымі вежамі касьцёл, пасярод дрэў віднелася скалечаная царква. Пад ёй знаходзіліся глыбокія падвалы, лёхі, якія пачалі запаўняцца арыштаваннымі людзьмі. Нешчаслівых канваявалі пешшу, фурманкамі або ў вялікіх партыях цяжкімі аўтамабілямі.

Бачым хлопца ў простай палатнянай кашулі і парцяных штанах. Ішоў босым, пасярод вуліцы - відавочна, яго забралі проста з поля. Канваявалі яго чырвонаармейцы. Пазьней даведаліся, што той просты, непісьменны селянін з суседняй вёскі дастаў сямнаццаць гадоў вязьніцы за тое, што ў часе нямецкай акупацыі адзін тыдзень выконваў у сваёй вёсцы фікцыйна пасаду солтаса. Паказальны суд адбыўся у мястэчку на вачох, папярэдне сабраных на тое відовішча жыхароў.

І так, пасынаючы ад простага крамніка, млынара, вартаўніка, адміністратара маёнтка, ня кажучы пра солтаса, войта ці старасту, усе траплялі да "падвалаў" пад царквой. Адно на тым абшары энкавэдысты ня злапалі ніводнага паліцыянта, бо адыйшлі яны ўсе разам зь немцамі на захад.

Новая акупацыя давалася кожнаму ў знакі. Перадусім, што прырода летняя была ў поўнай красе, паўсюдна панавалі смутак і цярпеньне.

*пераклад з польскае мовы У. С.*

# ЗЬ ГІСТОРЫІ "ІНТЭГРАЦЫІ"

"Литовские (*г. зн. беларускія*) города и веси, связанные с партизанами, повоевать и выжечь и разорить совсем без остатку."

"Людей литовских побивать сколько бог милостивый силы подаст".

"Книги литовской печати жечь на пожарах, чтобы ересь и смута в мире не была."

*з загадаў цара Аляксея Міхайлавіча, 1658 г.*

"Сии провинции (Беларусь) надлежит привести легчайшим образом к тому, чтобы они обрусели".

*імпэратрыца Кацярына II, 1795 г.*

"Что не смог сделать руский штык, доделает руская школа... Тот житель этого края, кто не захочет преобразиться в русского, будет считаться иностранцем и должен оставить его навсегда".

*генэрал-губэрнатар "Паўночна-Заходняга краю" Міхаіл Мураўёў, 1864 г.*

"Здешние учебные заведения должны избегать местных уроженцев и пополняться переселяющимися из великорусских губерний чиновниками".

*апякун Віленскай навучальнай акругі П. Карнілаў, 1863 г.*

"С точки зрения российских экономических интересов в Белоруссии абсолютно безразлично, кто будет руководить республикой в будущем - Лукашенко, Шарецкий или кто-либо другой из республиканской номенклатуры. Главное для России - чтобы он не разделял программного положения БНФ о том, что "геополитическое положение Беларуси является её главным источником финансовых ресурсов". Как сейчас,так и в будущем российские интересы в этом государстве будут прежде всего связаны с транзитом российского газа в Западную Европу".

*газэта "Комерсант-дейли", Масква, 26 лістапада 1996 г.*



# ГОРАД НАШАГА ДЗЯЦІНСТВА

У маленстве мы казалі адно аднаму, калі рабілася сумна: пайшлі ў горад. Пад горадам тады разумелі яго цэнтралёвую частку, дзе было болей крамаў і народу на вуліцах, кінатэатар, бібліятэка, адным словам - цікавей, чымся на нашых амаль што вясковых дварох з агрэстам, яблыкамі ды курамі. Так у дзіцячай сьвядомасьці узьнік міт гораду як культурнага ўтварэньня. Падлеткі мкнулі туды, каб весялей прабавіць свой вольны час, якога, вядома, было багата.

Адным з сымбаляў таго часу былі кнігі. Кніжны адзьдзел райунівэрмагу вабіў ўяўленьне стракатымі вокладкамі чароўных кніжак на высачэзных, у параўнаньні з нашым ростам, паліцах. Здаецца, найцікавейшыя кнігі стаялі на самым версе. Памятаю нашыя супольныя наведваньні дзіцячай бібліятэкі. Гэта быў, не раўнуючы сьвяточны абрад, нейкая сакральная дзея, што складалася са шляху праз "цэнтар", доўгага, цягам гадзіны, пошуку найлепшых кніг, хваляваньня, зь якім мы наўзахоп разглядалі іх у парку ля возера, у цяні шапатлівых дрэваў і шпаркай дарогі да хаты, каб там акунуцца ў казачны водар набытага скарбу пад спагадлівую курну коткі.

Мы стваралі сваю прастору самі. Адметна, што прабавалі рабіць яе найбольш культурнай. Калі хацелі гуляць у футбол, а адпаведнае пляцоўкі бракавала - ішлі й рабілі яе, дастаўшы дазвол ў гарсавеце. Тое ж самае з валейболам, настольным тэнісам і хакеем. Дарасьлі нават да жаданьня ладзіць спаборніцтвы з раўналеткамі зь іншых вуліц. І правялі гэткі чэмпіянат. Памятаю, намі апекаваўся слынны футбольны аўтарытэт Валік Зарэмба. Ён быў нашым трэнерам і вельмі ўражваў сваімі майстэрскімі фінтамі ды трапнымі ўдарамі ў браму пад верхнюю бэльку. Брамкары "ня бралі" гэткія мячы. Казалі, што аднаго разу бэлька ня вытрывала і зламалася бы запалка.

Мы сілкаваліся той энэргіяй, якую выпраменьвала бібліятэка, сонца, возера, дрэвы і царква - большыня з нас былі праваслаўнымі. Любілі наведваць сьвятыню разам са сваімі пільнымі бабулямі, а яшчэ лепш бязь іх. Вабіла ейная казачная прыгажосьць, стромая пакручастая лесьвіца, што вяла да званоў - як жа нам блюзьнерам хацелася зазваніць у іх,- і асабліва сутарэньні, дзе паводле паданьняў мусілі быць сапраўдныя таямніцы - так карцела іх разблытаць. Там-сям пралезьлі, але лёхі былі засыпаныя друзам і надзейна сьцераглі свае таямніцы ад цікаўных ды недасьведчаных у архэалягічных мэтадах. Нам, змалку грэшным, было што казаць папу на споведзі, але маўчалі. Калі мы дачуліся, што вартаўніком царквы быў брат славутага Максіма Танка - на жаль, ня спраўдзілі гэты факт,- то адмыслова хадзілі паглядзець на яго. Але ён быў нямы. Здавалася, ён ведаў больш за ўсіх пра тое, што нас цікавіла, бо бачылі яго зь нейкай старажытнай, таўшчэзнай, у скураной вокладцы кнігай. Чамусьці не наважыліся распытаць. Бы зачараваныя глядзелі на вялізны ключ, калі ён зачыняў дзьверы царквы. Эх, каб ён маг гаварыць, дык пэўна б распавёў нам і пра абраз Еўфрасіньні Полацкай, пра якую мы тады анічога ня ведалі...

Мінуліся гады і сплыло наша гаманлівае дзяцінства па рацэ часу незваротна. Яно адбілася ў сьвядомасьці Дасканалымі Момантамі Рэчаіснасьці. Пазіраеш на цяперашніх падлеткаў, думаеш: што іх сілкуе, дзе крыніцы іхных жаданьняў і захапленьняў? Ці ёсьць горад прытулкам для іхняе душы? Дзе іх шукаць?

Не дасі цяпер нырца з высокага адхону Пескаваткі ў вірлівую ваду, бо зруйнавалі тыя адхоны і няма той купальні. Ня зловіш рыбы з лодкі на возеры Кагальным - зьвялася рыба, не стрываўшы шчыльнага суседзтва зь людзьмі...

Цывілізацыя неўпрыкмет выцясьняе падлеткаў на перэфэрыю натуральнага асяродзьдзя: у кватэры і на ўскрайкі горада. Не спазнаўшы горада свайго дзяцінства, яны ўжо ня бачаць у ім "прытулку для мрояў".

Сёньняшнія падлеткі ўсё больш гуляюць у кампутарныя гульні ды носяцца з відэакасэтамі. Пачынаецца іхны зыход у віртуальную рэальнасьць. Вось бы не згубіць іх там.

**Янка Храпавіцкі**

# ЗАМАК РАДЗІВІЛА

Штотыдзень студэнты прыязджаюць на ўікэнд у Глыбокае і зьязджаюць у іншыя гарады на вучобу. Уікэнд, як правіла, мае асыцыявацца з адпачынкам і адпачынкам добрым. Шкада, што ў Глыбокім цяжка пасапраўднаму адпачыць. Мы й ня ўмеем гэтага рабіць.

Непакоіць стан глыбоцкага кінатэатра, аўдыторыя якога зьменшылася на стольвкі, што, бывае, ніхто не прыходзіць ні на відэа, ні на кіно. Калі прыходзіць менш за чатыры чалавекі, кіно звычайна не трансьлюецца, бо сьвятла выгарае больш, чым каштуюць квіткі. Якасьць відэастужак жахлівая. Большасьць фільмаў на пірацкіх копіях. Зьвярніце ўвагу, калі напісана ***NOT FOR SALE*** (не для продажу), то купляць гэтую касэту нельга. У асноўным фільмы, якія трансьлююцца ў кінатэатры "Родина", - гэта трэцьцяякасныя, адносна танныя карціны, а галівудзкія блёкбастары з добрай якасьцю амаль ніколі не даходзяць да нашага горада. Можа лёс кінатэатру такі нешчасьлівы, што, паводле домнеўкі, на яго мейсцы калісьці стаяў замак Радзівіла, на руінах якога мы й узгадавалі нашу заангажаванасьць і правінцыйнасьць.



Альтэрнатывай кіно заўсёды было *home video* (хатняе відэа). Моладзь адпачывае дома, а гэта вакуум, калі кіно - соцыюм, прагляд фільмаў разам. Але, як кіно, так і відэа ёсьць толькі праглядам.

Будучае за інтэрактыўнасьцю, калі карыстальнік можа ўдзельнічаць у тым, што адбываецца. І гэта ёсьць Internet. Ён парушае межы. Гэта цэлы сьвет, новая філязофія. Карціць верыць, што ня толькі ў Токіа і Новым Ёрку можна будзе пасядзець за кубкам кавы і хот-догам у Інтэрнэт-кавярні, але й Глыбокім. У Наваполацку Інтэрнэт ужо ёсьць. А да яго з Глыбокага - крок ступіць.

**Андрэй Храпавіцкі**

# ДЗЕ ЗАКАПАНЫ СКАРБ

Глыбокае ёсьць El Dorado. Залатое дно. Без перабольшваньня, такое меркаваньне бытуе ў большасьці жыхароў горада. Нехта казаў пра тое, як адна бабуля, з вуліцы Гагарына, корпаючыся ў гародзе, знайшла залаты пярсьцёнак. Ня сьціхлі "жарсьці", хоць прайшло ці не 15 гадоў, як будаўнікі, выконваючы земляныя работы пры ўзьвядзеньні гмаха ўнівэрмага, знайшлі стаўбунок з залатымі манэтамі. Гэта ж ня плёткі, а рэчаіснасьць, пра каторую ведае ўвесь горад. А колькі было такіх выпадкаў! Безьліч! Кожны з жыхароў, недзе патаемна, са скрухай, кажа сам сабе: "Чаму я там не апынуўся перш за ўсіх!"

Колькі часу таму адзін стары глыбачанін сустрэў двух знаёмых габрэяў, якія прыехалі ў Глыбокае з Амэрыкі. Ходзяць каля выцьвярэзьніка. Ходзяць каля гасьцініцы (там да вайны стаяла сынагога). Глядзяць наўкола. Адзін зь іх кажа: "А тут цэлае Глыбокае ў зямлі закапана!" Другі колькі памаўчаў і кажа: "Не! Тут не адно і ня два Глыбокіх закапана, а - тры!"

Ёсьць вэрсія, па якой у возеры Кагальным, ад боку вуліцы Кірава, знаходзіцца нямецкі танк часоў першай сусьветнай вайны. Вы ўяўляеце, які гэта ёсьць цудоўны гістарычны экспанат. Трэба яго дастаць з вады, пафарбаваць і паставіць на "біржы". Вазіць экскурсантаў і паказваць. Калі Глыбокае мае свой самалёт Сухога, то чаму яму не займець свой танк (кайзэра)! Жыве дзядзька, праўда ўжо не ў Глыбокім, відавочца, які ў дзяцінстве з мальцамі купаўся ў гэтым возеры. Яны даплывалі да танка, на глыбіні, што трохі ніжэй пупа, станавіліся на вежу, адпачывалі й плылі назад. Відавочца сьцьвярджае, што гэта ёсьць праўдай. Таму на поўным сур`ёзе просім: калі нехта недзе чуў ці ведае больш, памедаміць лепш нашаму начальству, каб парупілася дастаць яго з багны, бо могуць знайсьціся круцейшыя зь Менску ці зь Нямеччыны ды сапруць экспанат туды.

Неяк адзін мой знаёмы на ровары спыняецца побач мяне на вуліцы Маскоўскай.
-Ты чуў!?
-Пра што? - не магу ўцяміць я.
-Як пра што! Прыехалі літоўцы зь Вільнюса... Недзе там у архіве знайшлі тэстамэнт, у якім ёсьць паданьне. Згодна яго ў вёсцы Р...кова, на мейсцы, дзе калісь, гадоў 150 таму згарэў касьцёл, закапаны скарб. Літоўцы ходзяць па вакольных вёсках, дапытваюць старых людзей, каб тыя паказалі мейсца, дзе стаяў храм. Прыходзілі й да майго бацькі. Ён пацьвердзіў, што сапраўды старыя людзі памятаюць такое паданьне. Паводле мясцовай вэрсыі: некалькі сажняў ад апошняй прыступкі згарэўшага касьцёла тутэйшы пан закапаў скарб і пакінуў такі тэстамэнт: "Той, хто знойдзе гэты скарб, павінен адбудаваць касьцёл, а на рэшту - будзе жыць усё жыцьцё бязьбедна..."
-Паехалі капаць! - кажа ён. - Знойдзем - падзелім.
-Ты ведаеш, - кажу я, - усе гэтыя скарбы маюць закляцьці кшталту "праклёну фараона". Калі скарб знойдзеш, то лепш адбудаваць касьцёл, а рэшту падзяліць. Ня трэба, каб потым "наязджалі" рэкет ці міліцыя, а то й чаго горш патрапіш пад машыму ці патопісься ў возеры. Закляцьце ёсьць закляцьце.

Я адкрыў кніжку "Памяць. Глыбоцкі раён". Такая вёска сапраўды некалі існавала ў Карабоўскім сельсавеце. Ці быў там калісьці касьцёл - кніжка ня згадвае...

**Skarbašukalnik**

*Хіба можна паставіць нейкую Адэсу побач Глыбокага. Там прыдумваюць, складаюць гумар, а ў Глыбокім само жыцьцё ёсьць гумар.*

## ЗРАБІ САМ

На досьвітку гарбачоўскай "перастройкі", калі Міхал Сяргеевіч нешта пачаў казаць пра "новое мышление", у Глыбокім, на Маскоўскай вуліцы, застаўся адзіны апошні магазін "Віно-гарэлка", дзе можна (а то й ня можна), выстаяўшы шматгадзінную чаргу купіць пляшку "Русской водки".

Цэнтральная вуліца, велічэзная чарга, якая расьцягнулася ў некалькі шэрагаў ці не на сотню мэтраў...

Едзе важны чыноўнік зь Менску.
- А это что? -пытае ён.
- Чарга за гарэлкай падказваюць яму глыбоцкія клеркі.
- Убра-а-ать! В другое место! Это же центральная улица!

Убралі ў двор мэблевага магазіна каля чыгуначнага пераезда. На мейсца шыльды "Віно-гарэлка" павесілі новую - "Зрабі сам". Глыбачане гэта ўспрынялі ўсур`ёз, адэкватна і ноччу побач напісалі фарбай "Няма дрожджаў"!

## ДЗЕДАЎ АРСЭНАЛ

У вёсцы Хацілаўшчына дзед Сяргей пасварыўся зь нявесткай. Яна, каб адпомсьціць, пайшла ў пастарунак і "здала" дзеда. Маўляў, у дзеда, пад страхой хлева ляжыць кулямёт і скрыня з патронамі.

Падчас вайны, дзед Сяргей, тады яшчэ малады чалавек, пазьбіраў зброю, якую пакідалі самаахоўцы, уцякаючы ад бальшавікоў.

Прыязджае міліцыя.
- Ну, дзед, паказвай свой арсэнал!
Дзед ня стаў аднеквацца, сказаў: "Хадзем, мальцы, пакажу!" Выймаюць з застрэшша: карабін, пісталет, наган, кулямёт - усяго дванаццаць ствалоў, скрыні з патронамі, кулямётныя стужкі.
- Ладна,- кажа старэйшы міліцыянт, - карабін ці вінтоўка - можна кабана заваліць ці зайца. Але навошта табе, дзед, быў кулямёт!?

Дзед, які ня быў пазбаўлены гумару, кажа: "Ну, як, мальцы, навошта? Ды во каля хлева па восені бульбоўнік скасіць!" Міліцыянты парагаталі, забралі арсэнал, паехалі ў Глыбокае. Дзеда браць ня сталі: дужа стары. Яшчэ, крый Божа, да Глыбокага не давязеш.

Я ж уяўляю дзеда Сяргея, які ўвесь перапеназаны кулямётнымі стужкамі, залягае за вугал хлева і косіць чэргамі бульбоўнік...

**Мікола Самавіты**





# Сябрына

## Андрэй Храпавіцкі

*Гэта было незвычайна. Раніцай даў мароз, і калі я йшоў у школу некалькі разоў пасьлізнуўся. Але я ведаў, што пасьля заняткаў у мяне літаратурны клюб, дзе можна будзе пагутарыць пра нешта цікавае: літаратуру па-за межамі школьнае праграмы.*

*Мы зьбіраліся два разы на тыдзень. Прыходзіла 4-5 чалавек, але нас яднала тое, што мы пісалі вершыкі ці проста любілі літаратуру. Праводзіў гэты клюб, трэба сказаць, непрызнаны ў Глыбокім паэт Уладзімер Шломан. Большасьць ягоных вершаў белыя (ня маюць рытмы), але, як мы даведаліся, галоўнае ў вершы ня рытма. Мы разьбіралі джойсавы "Ulysses", японскія хайку, Кафку, Бадлера і шмат іншых літаратараў. На клюбе я даведаўся пра Бродзкага, чыю паэзію ў далейшым надта палюбіў. Мы пісалі вершыкі, перакладалі з ангельскай ці проста практыкавалі наш English. І пасьля заканчэньня наскай сябрыны ішлі па зімовай сьлізгаце, размаўляючы, пра высокае і вечнае.*

*Менавіта на клюбе мне стала цесна ў рамках абрыдлага соцрэалізму. Захацелася выскачыць са скуры і зірнуць на цёмны бок поўні, што сумна спала на глыбоцкім небе. Захацелася ўзбаламуціць сонны літаратурны вір. Напісаць нешта большае, чым "чытаць-сказаць, доля-нядоля".*

*У. Шломан быў адным зь першых паэтычных аўтараў нашае газэты. Яго паэзія ёсьць не пэсымізм, але нейкая своеасаблівая абстракцыя, праніклёнасьць у глыбіню рэчаў, якія абывацелю могуць падацца неістотнымі.*

*Яшчэ адна ўдзельніца клюбу Наталі Масьлёнчанка пісала пэсымістычныя вершы пра сябе, жаночыя й гэтым прыгожыя.*

*Ідэя гэткага клюбу вельмі файная, каб яе адкінуць у мінулае. Наш горад славіцца сваімі паэтамі, але паэзія мае разьвівацца, каб нашы дзеці маглі ўбачыць ня толькі праграмную "новую" зямлю, але і ірацыянальнае "новае" неба.*



## ПАЭТУ

птушкі  
іх сустракаеш і праводзіш вачыма  
яны сядаюць на гаўбец  
стукаюць у вакно  
і дзяўбуць у цябе з рукі  
зьлятаюць прэч  
і ты ня ведаеш куды  
гэтак і людзі

## ШАГАЛ

сэрца плача у рытме комы поўні  
што павісла на карціне ў галерэі  
лужы сьлёз у артэрыях далоняў  
кленчу прад Сусьветам дай мне веры  
мітушуся паміж праўдай і няпраўдай  
пілігрымам паміж дэманам і Богам  
і няма прыпынку прамэнаду  
бо мой лёс цыклічная дарога  
але ведаю мой шлях ёсьць сутнасьць  
шлях бясконцы ён ня мае скону  
калі згаснуць ліхтары паўсюдна  
ведаю на неба ўсё ж узыйдзе сонца

## ДЫЯЛЕКТ

Я адчуў дыялектам сябе  
ў мове гэтай краіны  
ці зьбіральнікам кветак памерлых  
на чорным бульвары вайны,  
бо суседзі мае аранжу  
прамянялі на міны,  
а паэзія зьнікла ці сьніць  
каматозныя сны.  
Я ніколі ў жыцьці не жадаў бы  
стаць аўтаматам  
і страляць у натоўп, кагосьці  
пазбавіць жыцьця;  
столькі часу нашу зямлю  
таптаті салдаты,  
забівалі самі сябе двубоем  
з чужога ружжа.  
Колькі можна быць побач ці воддаль  
і глядзець не сваімі вачыма  
і блюзнэрыць над памяцьцю,  
мовай сваёй,  
глядзець на экран тэлевізара  
і прадказваць навіны...  
Я ўсяго дыялект у краіне чужой.

## ВЫЙСЬЦЕ

Я:  
Самота тлумачыла мне,  
што ёсьць паэтычныя формы,  
чытала мне лекцыі лета,  
як кулі насіў я радок  
на плячох. Спрабаваў  
ісьці ўгару бяз стогнаў,  
па пуне паэзіі йсьці,  
прабівацца праз змрок.  
Ішоў, каб ісьці,  
каб ня стаць і ня думаць навошта,  
не шукаць сэнс жыцьця  
з запалкай у сутоньнях быцьця,  
а як стаў, зразумеў -  
заблукаў. Не даходзіць пошта  
з тлумачэньнямі сэнсу  
ў тупік, дзе сэнсу няма.  
Жах, калі гэты сум  
пераходзіць у канстанту.  
Лепей не йснаваць,  
чым у прыцемках весьці вайну,  
лепей верыць і жыць  
адпаведна Канту,  
чым ня верыць і памерці  
паводле Камю.  
Звыш Я:  
Ах, як проста сказаць,  
даць апляvуху Сартру  
ці Камю, але цяжка  
выйсьце знайсьці:  
млосьць адчуць  
мне хапіла гарту,  
а ці здолею  
радасьць адчуць у жыцьці?

**Расчыні свой розум, каб выпырхнулі думкі**  
**І панесьліся праз фортку ў нябёсы**  
**Дасягнулі сонца, абпалілі крылы**  
**І зваліліся на летнія пракосы**

# Людміла Андзілеўка
# КАЛІДОР



***Вузкім, доўгім калідорам сунецца чалавечы натоўп. Сьцены яго нябачныя і ў той жа час непераадольныя, парушыць межы калідора - вялікая небясьпека, па-за імі бездань... Рухацца па ім цэлая навука, але калідор гэты - адзінае ўратаваньне: крок у бок - пастка, крок у другі - прорва!***

***І ўсё ж знаходзяцца тыя, каму невычэрпна існасьці паўз нябачных сьцен і вырываюцца яны з натоўпу людзкога, і прадзіраюцца паасобку...***

***Адных рызыка завядзе ў тупік, другія, зьбіваючы ў кроў целы й душы пратопчуць сьцежку, роўна на якую пашырыцца потым калідор, і ўжо ідучыя сьледам будуць рухацца крышачку вальней...***

## ЧАРГА

О, чарга, ты - шэраг, ты чарада...
Ня так важна - за чым, як тое, што "з усімі разам"!
О, як гнявіць цябе бязчэргнасьць тых, хто сьпяшаецца,
Хто не жадае "як усе", хто ня здолен па нямогласьці.
А як прыцiхаеш ты, скінуўшы шапку, саступаючы пану-бацьку
НАЧАЛЬСТВУ! (Яму "паложана").
У цябе наогул сьлязьлівая настальгія па начальству,
Якое не прызнае цябе, цураецца...
Ты патрабуеш - "усім пароўну!" - таемна жадаючы сабе лепшага.
О, чарга!
Ты само жыцьцё - "Дзе канец, дзе пачатак?"
Ты само жыцьцё - "У бясконцым чаканьні..."
Ты само жыцьцё - "Каму - што, каму - нічога"
Ты само жыцьцё - "Ці вядома, за чым стаіш?"

## ПРА ДУШУ Й СУСЬВЕТ

Дом - гэта тая частка прасторы, за якую здольна балець і адказваць твая душа. У каго толькі за свой куток, вёску... У каго - за дзяржаву, плянэту, а ў каго - за СУСЬВЕТ... Толькі нажаль, большасьць з нас зусім бяздомныя...

Ніякая філязофія не прэтэндуе на ісьціну, а існуе толькі дзеля таго, каб іншыя не прысвоілі чужыя думкі, шукаючы свае.

Каб ісьці, вядома, трэба зрабіць першы крок, але ці лепш раней запытацца, падумаць - КУДЫ?

Зьнішчаючы няўвагай законы, мы рызыкуем не заўважыць той, які загадае зьнішчыць нас.

Тое, што ў сямнаццаць ад наівасьці, у трыццаць - ад глупства.

Не прапануйце брыльянт таму, хто здавольваецца бутэлечным шклом.

Думка пераходзіць у перакананьне пасьля згоды сэрца з розумам.

У прароцтва шмат юродства, ды ня кожны дурань прарок...

Паветра кішыць думкамі, якія нахабна лезуць у галаву. Перад такой небясьпекай трэба паставіць заслону - карыснае дзе-папала не бадзяецца. Сапраўдныя думкі патрабуюць доўгага выношваньня й нараджэньня.

Ня бойся страціць тое, чаго ня маеш, бойся не знайсьці сваё.

Ёсьць адзінае ўратаваньне ад усіх і ад усяго, адзінае ва ўсім сьвеце - гэта ТЫ САМ. Навучыцца заўсёды жыць побач з сабой, сваім сумленьнем... Адчуваць сябе, паважаць - роўна прыручэньню Бога.

Праз палову века ў вас аслабеў зрок - зрабіце рэвізыю: ці ўсё бачылі, ці не прапусьцілі галоўнага? У вас нешта са слыхам - можа ён і не патрэбны - чулі толькі сябе? Баляць ногі - а ці туды хадзілі, рукі - а ці тое рабілі? З нэрвамі не парадак - а не папсавалі іх іншым? Калі ж са здароўем у вас - О'КЭЙ - вам ужо нічога не дапаможа

Шмат людзей без галавы, бяз сэрца, без сумленьня... Без чаго толькі не прызвычаіўся існаваць чалавек!





# Les plaines fertiles de Gloubokoe



Роўна 185 гадоў таму Напалеон Банапарт зь Вільні павярнуў на Сьвянцяны, а з Сьвянцянаў 18-га ліпеня прыбыў у Глыбокае. Тут была яго галоўная штаб-кватэра і наладжаны быў этапны пункт для снабжэньня арміі. Напалеон прабыў у Глыбокім 10 дзён у чаканьні сваёй цяжкай артылерыі.

Перад тым, 1 ліпеня ў Вільні імпэратар падпісаў дэкрэт аб утварэньні Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага - урадавага воргана адміністратыўнага кіраваньня краіны. У склад фактычна аднаўленага ВКЛ уваходзілі наступныя тэрыторыі: Віленшчына, Горадзеншчына, Беласточчына і Меншчына. Віцебская і Магілёўская губэрні пакуль што стварылі асобную адміністратыўную адзінку - Беларускую губэрню, губэрнатарам якое быў прызначаны маркіз Пастэр, той самы Пастэр, якому Напалеон, пакідаючы Віцебск перад далейшай дарогай на ўсход, сказаў 1 жніўня 1812 году: "Глядзіце на Беларусь, як на хаўрусьніцу, а не як на на заваяваны край!" Па-за межамі ўзноўленае беларускае дзяржавы засталася таксама і зямля Жамойцкая ды Смаленская.

Паводле дэкрэту, аднаўленае Вялікае княства Літоўскае павінна было мець зусім асобны ад Варшавы ўрад, званы афіцыйна Камісіяй часовае управы, складаўся з наступных асобаў: старшыня Камісіі - беларускі магнат маршалак надворны літоўскі Станіслаў Солтан, сябры - Кароль Прозар, граф Язэп Серакоўскі, князь Аляксандр Сапега, граф Францішак Ельскі, граф Аляксандр Патоцкі і рэктар Віленскага ўнівэрсітэту Ян Сьнядзэцкі.

5 ліпеня 1812 г. адмысловым дэкрэтам Напалеон Банапарт даручыў Часоваму ўраду ВКЛ сфармаваць пяць палкоў пяхоты і чатыры палкі кавалерыі, для чаго трэба было набраць 14 тысяч рэкрутаў, зь іх 4 тысячы для коньніцы. Адначасова быў сфармаваны трэці полк лёгкай кавалерыі імпэратарскае Гвардыі, які складаўся пераважна з ахвотнікаў - шляхоцкае моладзі. Шэфам палка быў ураджэнец Слоніма генэрал брыгады Канопка.

На фармаваньне палкоў пяхоты ў мабілізацыйным парадку паступіла навабранцаў: зь Віленскага дэпартаманту 3 тыс., з Горадзенскага - 2500 і зь Беластоцкага - 1500 чал. Кавалерыя фармавалася наступным чынам: с кожных 75 дымоў ішоў адзін вершнік з канём. На іх узбраеньне зьбіралася па 486,5 злотых. Тэрмін службы Часовы ўрад устанаўляў аднадолькавы для абодвух родаў войска - шасьцігадовы. Усяго ў пяхотных і кавалерыйскіх палкох і батальёнах стральцоў было да 20 тыс. чал.

Доля не была прыхільнай гэтаму літоўска-беларускаму войску: паварот расейцаў спыніў яго дзейнасьць. Першая сутычка з маскоўцамі адбылася 20.10.1812 г каля Слоніму, дзе стаяў конны полк генэрала Канопкі. Расейцы разьбілі маладую гвардыю. Сам генэрал Канопка, 17 афіцэраў і 217 падафіцэраў і коньнікаў трапілі ў палон. Змагаліся супраць расейскіх войскаў і іншыя вайсковыя адзьдзелы ВКЛ. Некаторыя зь іх далучыліся пазьней да корпусу графа Панятоўскага, зь ім дайшлі да Варшавы, а пасьля змагаліся, баронячы Модлін. Уланы 20-га палка і частка ўланаў 19-га ўвайшлі ў склад 9-га польскага ўланскага палка, які быў пры корпусе Макдональда ў Гданьску.

На долю 17 і 19-га ўланскіх палкоў выпала цяжкая і вельмі адказная служба. Добра ўкамплектаваныя і ўзброенные, яны павінны былі засланяць пры адыходзе праз Прусію да ракі Лабы тую маленькую жменьку зморaных, галодных і слабых жаўнераў "Вялікай арміі", што засталіся жывымі пасьля паходу ўглыб Расеі. Гэта яны, гэтыя ўланы графа Міхаіла Тышкевча й Раецкага, прынялі на сябе і адбівалі напады мацнейшых больш колькасных казакаў і башкіраў - маскоўскае кавалерыі. Нялёгкае заданьне беларусы выканалі з гонарам. Пасьля абодва гэтыя палкі былі ў корпусе маршала Даву, былі пад Гамбургам, трапілі ў Гольштын і Шлезвіг, дзе й стаялі з французкімі войскамі аж да падпісаньня Парыскае мірнае дамовы.

Мір гэты дазволіў ім вярнуцца спачатку ў Польшчу, дзе яны на працягу яшчэ двух гадоў служылі ў польскім войску пад камандай царэвіча Канстантына, а затым вярнуліся на Бацькаўшчыну, у свае родныя беларускія вёскі.

І ўсё ж у ліпені 1812-га, 185 гадоў таму, ў Глыбокім Напалеон быў поўны надзеяў. "Les plaines fertiles de Gloubokoe,"*- як пісаў Сегюр, павінны былі пракарміць яго "Вялікую армію". 185 гадоў таму была спроба аднавіць беларускую дзяржаўнасьць у форме Вялікага княства Літоўскага.

**Ул. Скрабатун**

*Урадлівыя раўніны Глыбокага (франц.)



Сёньня цяжка даць веры, але 10 гадоў таму ў Глыбокім яшчэ да адкрыцьця газэтных шапікаў выстрайваліся чэргі за газэтамі й часапісамі. Між іншым, гэта так. А троху раней тое самае назіралася й у кнігарні - ейныя заўсёднікі памятаюць. Як хтосьці сказаў, падчас гарбачоўскай перастройкі, чытаць было весялей, чым жыць. На ўзгадаванага на галодным культурным пайку чалавека раптам абрынулася лавіна схаванай у спецсховішчах інфармацыі. Цяпер бум на друкаваную прадукцыю сьцішыўся да катастрафічных памераў. Зрушыліся акцэнты: людзям трэба жыць, чытаць - няма калі. Існая ўлада правакуе чарговы ўздым інтарэсу: фактычна забаронена для продажу кніга У. Арлова "Адкуль наш род?", адмоўлена В. Быкаву ў друку новага збору апавяданьняў "Сьцяна", здымаюцца зь Беларускай гістарычнай энцыкляпэдыі артыкулы слынных навукоўцаў... Зноў нехта вырашае за нас, што нам нельга ведаць! Таму вельмі важна, што сёньня чытае народ. Пэўную інфармацыю аб гэтым прапануем чытачам "ВГ".

> **"Wir müssen wissen. Wir werden wissen"**
> *Д. Гільбэрт*
> (Мы павінны ведаць. Мы будзем ведаць)
> Гэтыя антымістычныя словы пра грамадзкую адказнасьць навукоўца належаць знакамітаму Д.Гілбэрту. Яны напісаныя на ягоным магільным помніку. У сучасным беларускім кантэксьце яны ўспрымаюцца так: ты мусіш ведаць, каб не нарабіць глупства, каб ня стацца закладнікам чыёйсьці недасьведчанасьці і бязглуздзіцы.

# ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДЗЬДЗЕ

## колькасьць падпішчыкаў у маштабе раёна

### ГАЗЭТЫ

| | |
|---|---|
| Аргументы и факты - 318 | Народная газета - 2847 |
| Беларуская ніва - 652 | Народнае слова - 642 |
| Беларускае тэл. і радыё - 164 | На страже - 367 |
| Беларускі час - 105 | Национальная экономическая газета - 119 |
| Ваше здоровье - 76 | Наша доля - 11 |
| Веснік Глыбоччыны - 5560 | Наша Ніва - 5 |
| Витьбичи - 29 | Правда - 7 |
| Віцебскі рабочы - 1614 | Рэспубліка - 564 |
| Звязда - 1080 | Свабода - 109 |
| Знамя Юности - 151 | 7 дней - 490 |
| Известия - 152 | Советская Белоруссия - 1158 |
| Комсомольская правда - 14 | Спортивная панорама - 24 |
| Літаратура і мастацтва - 42 | Труд - 25 |
| Медицинский вестник - 480 | Чырвоная змена - 827 |
| Народная воля - 279 | |

### ЧАСОПІСЫ

Алеся - 190
Беларуская думка - 47
Беларуская мінуўшчына - 13
Беларусь - 4
Бярозка - 42
Ведамасці ВС РБ - 21
Вясёлка - 320
Гаспадыня - 1819
Маладосць - 20
Нёман - 21
Першацвет - 2
Полымя - 55
Роднае слова - 133
Родная прырода - 18
Собр. Указ. Президента - 29
Хозяин - 380

## У КНІГАРНІ І БІБЛІЯТЭЦЫ

Стракатыя вокладкі кніг ня ёсьць сёньня прынадай для чалавека, прыцісьнутага матэрыяльнымі ўмовамі існаваньня. Але тым ня менш, знаходзяцца людзі, што купляюць двухтамавік Байрана за 360 тыс. ці Шэксьпіра. Цудоўныя кнігі знакамітага псыхоляга К. Юнга таксама купілі за немалыя грошы. Найбольшы попыт мае лёгкае чытво - фантастыка, дэтыктывы, эротыка.

Усьцешвае тое, што дарагоўля асабліва не спыняе культурнага чытача, які заўсёды быў у Глыбокім. Ён ідзе, натуральна, ў бібліятэку. Гэта ён пакідае свае пазначкі на старонках часопіса "Иностранная литература", чытаючы Мішэля Фуко, Сартра, Кундэру...

Найбольш чытаюць незалежную прэсу, любоўную і спэцыяльную літаратуру. На жаль, сёньня няма кнігі, за якой палявалі б так, як у свой час, прыкладам, за "Детьми Арбата"...

**Я. Х.**

*Вы яшчэ не чыталі?*

# ГАРТ

1947 год. У адным з гарадзкіх дамоў вірue моладзевая вечарына. Завадатары - студэнты Глыбоцкай пэдагагічнай вучэльні Васіль Мядзелец з сябрамі. Грае гармонь, хлопцы і дзяўчаты пусьціліся ў скокі, вясёлая гамана, жарты... Раптам у пакой заходзяць людзі са зброяй. Праверка дакумантаў. В. Мядзельца і А. Фурса арыштоўваюць (безь ніякага ордэру). Вязуць у "варанку" у адьдзел МГБ. У гэтую ноч (і наступныя) бяруць астатніх. Тое ж самае і ў Паставах, у тамтэйшай пэдвучэльні. Паводле судовага выраку будучыя настаўнікі атрымалі ад 3 да 25 гадоў ГУЛАГУ.

За што - зьдзіўляліся гараджане? Пабралі ж самых лепшых навучэнцаў. В. Мядзелец дык увогуле быў сакратаром камсамольскай арганізацыі!

За другую дзею. Яна таксама адбывалася колькімі месяцамі раней ў адной з глыбоцкіх (і пастаўскіх) кватэр. Хлопцы й дзяўчаты давалі прысягу: "Я (кожны называў сваё імя і прозьвішча), уступаючы ў Саюз Беларускіх Патрыётаў, прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды незалежнасьці Беларусі. Калі ж па слабасьці сваёй або па злому намеру я парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, хай пакарае мяне Бог ганебнай сьмерцю здрадніка Радзімы."

Вось так, яны дбалі пра незалежнасьць Беларусі, згуртаваліся дзеля гэтага, а іх судзілі як здраднікаў радзімы. Як такое вытлумачыць? Тлумачэньне адно: у нашых маладых людзей і тагачаснай улады былі розныя радзімы. Ад часоў закату ВКЛ над намі заўсёды панавалі чужынцы. Адны акупанты зьмяняліся на іншых. Гітлераўскі рэжым саступіў мейсца сталінскаму і новыя чужынцы пачалі ўсталёўваць тут свае парадкі: калгасы, КПСС, КГБ, ГУЛАГ, школы са сваёй мовай. Натуральна, найбольш культурна разьвітыя маладыя людзі не маглі трываць гэтая дзікунства і таму мусілі зьдзейсьніць свой супраціў. Перадусім моладзь пратэставала супраць гвалтоўнай русіфікацыі школы.

Іронія гісторыі: будынак, дзе месьцілася колішняя пэдвучэльня згарэў праз недагляд. Ён належыў СПТВ. Пройдзе час і на гэтым мейсцы ўсталююць мемарыяльную пліту. Пакуль жа ў цане зусім іншыя "патрыёты" з БПСМ.. Штучная, палітычная арганізацыя, якую нельга паставіць у які-колечы культурны кантэкст. Бо "кепска харчаваліся яны ў дзяцінстве і гэта сапсавала ім страўнік". Іхным харчам была й дагэтуль застаецца ўсё тая ж бальшавіцкая ідэалёгія, што ўспрымаецца ўсім цывізаваным сьветам як антыкультурная зьява. Таму можна паспачуваць ахвярам чарговага замбіраваньня. Але калі гэтай уладзе разам зь ейнымі памагатымі хопіць імпэту каб канчаткова зруйнаваць беларушчыну, то ад яе застанецца нешта станоўчае. Зноў паўстане Саюз Беларускіх Патрыётаў. Пачнецца новы культурны Рэнесанс.

***Я. Х.***

***Пра Глыбоцка-Пастаўскі СБП выдадзена кніга "Гарт". На яе можна падпісацца праз газэту "Наша Ніва". (гл. апошнюю стар.)***

*Уладзімер Скрабатун*

# КАРПАЦКІЯ КРАЯВІДЫ НА ВУЛІЦАХ ГЛЫБОКАГА

*Дзе той архітэктар, які распачне наш "глыбоцкі" стыль? Калі горад займее ўрэшце свайго дойліда?*

Я ніколі ня быў у Закапанэ - польскім гарадку, што сярод Карпацкіх гор. Затое быў на Ўкраіне, бачыў тамтэйшыя карпацкія мястэчкі. Служыў у войску на тэрыторыі тагачаснай Чэхаславакіі. Праязджаў, бачыў прыкарпацкія і прытатранскія горныя гарады й паселішчы. Увесь гэты час мяне не пакідала думка, якая фармавалася там ад убачанага сваімі ўласнымі вачыма: усё, што я бачыў, ёсьць у нечым дужа падобна на наша Глыбокае. Я згадваў нашы дамы: на вуліцы Савецкай у Беразьвеччы, на вуліцах Вольнай, Камсамольскай, Камуністычнай, Мінскай і Маякоў-скага зь іхнымі складанымі дахамі, мансардамі і аканіцамі. Яны стаяць у Глыбокім бы прынесеныя зь іншай плянэты, неяк рамантычна ўпісаліся ў твар нашага горада, ды сваім зьнешнім выглядам кажуць: такога на Беларусі больш нідзе няма.

У мяне даўно падсьвядома склалася асацыяцыя: гэта ёсьць свая Сярэдняя Эўропа ў Глыбокім. Я верыў уласным вачам, але я не шукаў ніякай гістарычнай літаратуры, каб самаму сабе даказаць дакумэнтальна слушнасьць уласных высноваў. Зусім нядаўна здабыў вельмі цікавую кніжку браслаўскага гісторыка і краязнаўцы Кастуся Шыдлоўскага "Архітэктурная спадчына Браслаўшчыны". Аўтар кнігі згадвае імя Юліюша Клоса (1881-1933), архітэктара, прафэсара Віленскага ўнівэрсітэта, дасьледчыка архітэктурных помнікаў. Па яго праектах у 20-30-я г.г. забудоўвалася Браслаўшчына. У вёсцы Мяжаны ён узьвёў цудоўны драўляны касьцёл Маці Божай Анёльскай. Архітэктурны стыль будынка вызначаецца як "закапанскі". У 1926 годзе ён узьвёў новы адміністратыўны цэнтар Браслава, які зь нязначнымі зьменамі захаваўся дазараз. Разглядаючы здымак гэтага цэнтра 1930-х гг. я заўважыў, што ў абрысах тых будынкаў ёсьць шмат падобнага з архітэктураю нашай паліклінікі (цяпер Моладзевы цэнтар), а таксама будынка былой глыбоцкай пэдвучэльні (гэты будынак гадоў 10 таму згарэў і быў адбудаваны ў зьмененым выглядзе).

Займаючыся краязнаўчымі вышукамі, я зьвярнуў увагу на адзін факт: Юліюш Клос неаднаразова наведваў Глыбокае. На паштоўках, дзе адлюстраваны храмы Глыбокага і Беразьвечча, ёсьць подпіс: "Foto J. Kłos". Пазьней я задаў Кастусю пытаньне: "У Браславе і Глыбокім ёсьць шмат вельмі падобных будынкаў 1930-х гг. Ці ня мог такія будынкі ў "закапанскім" стылі пабудаваць у нас архітэктар Юліюш Клос?

- Тое, што Клос рабіў праекты забудовы Глыбокага, я дакладна ведаю, - кажа ён. Сам бачыў у архівах. Пытаньне толькі ў тым - наколькі гэтыя праекты былі рэалізаваны. Проста пасьля яго сьмерці ў гэтым духу маглі будаваць дамы яго пасьлядоўнікі, капіруючы Клоса. Трэба праводзіць адмысловы досьлед у архівах.

Між тым, незалежна ад таго, што пакажуць далейшыя вышукі, праўдай ёсьць тое - у Глыбокім (і ў Браславе) існуе цікавая забудова ў "закапанскім" стылі. Больш такога на Беларусі нідзе няма. Магчыма, архітэктары, якія будавалі Браслаў і Глыбокае хацелі "зьнівэліяваць", зрабіць Польшчу аднолькавую сваім тварам ад Карпат да Браслаўскіх азёр. Іх можна зразумець - яны любілі сваю Польшчу. Яна павінна была быць падобнай у Закапанэ, Браславе і Глыбокім. Сёньня, незалежна ад палітычных поглядаў, хай ты камуніст альбо нацыяналіст, трэба імець халодную галаву і цьвярозы розум і сказаць самім сабе: усё, што пабудавана пры Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай, пры царскай Расеі, і савецкай уладзе ды ў незалежнай Беларусі ў нашым горадзе, гэта ёсьць нашым, беларускім. Спадчына! Ня трэба бурыць прыгожы будынак толькі таму, што архітэктар быў палякам. Ён будаваў для нас, для Глыбокага. Даўно прыйшоў час абвясьціць гэтыя будынкі помнікамі архітэктуры мясцовага значэньня. Утрымліваць іх у належным аўтэнтычным выглядзе. Правесьці навуковую рэканструкцыю, аднавіць пасадкі лістоўніц, піхтаў, якія арганічна падкрэсьлівалі "карпацкае" паходжаньне стылю.

Я падзяляю заклапочанасьць намесьніка старшыні райвыканкама Т. Д. Сауліч, выказаную мне аднойчы ў прыватнай гутарцы: "Трэба неяк раіцца, каб зноў не нарабіць дзялоў, ды ня зьнесьці тое, што трэба ахоўваць!" Канешне можна запрасіць спэцыялістаў з "Белрэстаўрацыі", як гэта робіць яна, каб атрымаць аўтарытэтную думку, ці правесьці, напрыклад, круглы "стол" з удзелам мясцовых архітэктараў, гісторыкаў і краязнаўцаў, каб выпрацаваць канцэпцыю культурна-гістарычнага разьвіцьця горада.

Заканчваючы гэтыя радкі, я зайшоў у краму па цыгарэты... Мая знаёмая з вышэйшай архітэктурнай адукацыяй, якая дасканала валодае французкай мовай (працавала франкамоўным гідам), праходзіла практыку па спэцыяльнасьці на будовах у Францыі, потым у Карлавых Варах у Чэхіі, цяпер прадае цыгарэты!!!

- Воўка, ну як так магло стацца, - кажа яна мне, - сярод горада пабудавалі туалет! Чаму яго не маглі пабудаваць у двары кінатэатра? Дзе ў людзей галава, дзе той архітэктар, які мог такое прыдумаць!? Там павінен стаяць тэатар ці быць прыгожая набярэжная!..

Дзе той "Клос", які распачне наш, свой "глыбоцкі" стыль?!

запрашаем!

# Прыватны салён Галіны Сутулы

## *Г. С.* Шкадавала бабка Рэкса

**1**

Бабка Фёкла да нявесткі
Ірванула ў горад раз.
У суседчыных барэтках
З сумкай мяса і каўбас.
Гаспадар застаўся ў хаце,
Верны Рэкс яе гадоў.
"Сам сябе накорміш, браце,
Я ж адведаю сыноў".
Так сказаўшы бабка пешшу
Скіравала на бальшак.
"Хто падкіне,- думка цешыць,-
Атрымае аж пятак".
Праляталі з шыкам "тачкі"
І на бабку ўвагі нуль.
"Каб цябе стапталі качкі-
"ЗАС" не ўзяў. Ня стаў "Жыгуль".
За пяць тысяч пры камуне
Апанас купіў "Масквіч".
Ну а сёньня ногі змуліш:
За пятак пад`едзеш фіг...

**2**

Дапякла так-сяк да сына -
Рады ўнучкі каўбасе.
Дзве дзяўчынкі, што маліны.
Ім бы босым па расе...
А яны - у сваю каморку.
Зад прыкрыўшы ледзве-ледзь.
Нейкую там кіназорку
Клічуць бабку паглядзець.
Фёкла аж сліну пусціла:
"Зорка" ходзіць галяком.
Як у кабыліцы сіла:
Спіць з дзесяткам мужыкоў.
Ад пасцельнай ад распусты
Ў бабкі мову зацяло,
Засвярбела ад спакусы
Там, дзе даўна "зарасло"...

**3**

Сярод ночы бабка кулем
З гораду бяжком бяжыць.
Вось і вёска. Усе паснулі,
І ля ганку Рэкс ляжыць.
"Мой сабачка, - кажа бабка. -
Калі ты быў малады,
Сучкі за табой ахапкам -
Сэксаваўся ты тады.
Стрымгалоў за імі лётаў
Ды сумленным, відаць, быў.
Ты сабачую работу
Так, як "зорка" не рабіў...
Шкадавала бабка Рэкса,
Што не бачыў таго сэксу.



1 Жанчына, як астроляг: пра іншых ведае ўсё, пра сябе - нічога.
2 Мужык і жонка, што дэпутаты парляманту. Яна - заўжды на трыбуне, а ён - у чарзе, пры чым да мікрафону, які заўсёды адключаны.
3 Ніводны мужчына без дапамогі цешчы не можа зразумець, што ён не дастойны сваёй малжонкі.
4 Жанчына й мужчына зходзяцца дзеля таго, каб потым улагодзіць цешчу шлюбаразводным працэсам.
5 Жанчына пабіраецца шлюбам, каб пераканацца ў тым, што яна зрабіла няправільны крок.
6 Калі жанчыне ў шлюбе даць права выбара, яна ўсё жыцьцё будзе вырашаць: каго ж з двох мужчын зрабіць няшчасным.
7 Мужык і жонка - яблык разладу, надгрызенае цешчай.
8 Мужык і жонка сварацца, адвакаты й судзі пацірають рукі, цешка складае валізкі.
І хто прыдумаў гэты "Бярмудзкі трохкутнік"?
9 Сучасны мужчына выступае ў трох "іпастасях": мужчына - пажыральнік емінаў, гарачы прыхільнік гарызантальнага становішча, аддаными знаўца друкаванага слова.
10. Калі мужчына здраджвае жанчыне - гэта маленькае свавольства, калі жанчына мужчыне - сьмяротны грэх.
11 Мужык па дарозе да каханкі - глядзіць наперад, калі вяртаецца да хаты - з жахам азіраецца.
12 Развод - гэта такая падзея, якую чакаюць са дня вяселля.
13 Калі ў мужчыны няма сродкаў утрымліваць палюбоўніцу, ён мае ўтрымліваць хаця б сям`ю.

*Г. С.*

## *Г. С.* ДАГАВАРЫЛІСЯ

Аднойчы ў аптэку зайшоў старэнькі дзядуля і папрасіў у маладой, толькі з навук аптэкаркі:
- Дзетка, дай ты мне з пяток гумак, каб ніякая зараза не чаплялася.
Маладзіца ўдакладніла:
- Вам жавальных, каб захаваць зубы?
- Якія там зубы, дачушка. Тут дзёсны хутка ў малаку размочацца, а ты зубы. Ніводнага даўно няма. Гумку такую, каб можна было на палец усцягнуць.
Дзядуля выпрастаў руку і пачаў суправаджаць славесную просьбу рухамі.
- Толькі гэты палец тонкі, а мне на таўсцейшы, распухлы. За столькі год работы набілася гразі, яго і разнясло, пашчапаўся. Мне баба і кажа: купі гумовы пальчык, каб засцерагчыся ад пылу і мікробаў.
Дзяўчына чамусьці пачырванела, а затым падала прыгожа запакаваны з замежнымі літарамі пакет.
- Дзядуля, тут дзесяць штук. Яны аднаразовыя. Пакарыстайцеся і выкідвайце.
- Што ты! Мая баба эканомная. Нам з ёй на гады два хопіць, калі жыць будзем.
Дзед заплаціў грошы, адышоўся да дзвярэй, разарваў пакет, усцягнуў "гумовік" на пашчапаны палец. Па выгляду застаўся задаволены. Адзінае чаго не мог зразумець стары: на канцы тырчалі нейкія ніткі. Тоненькія. Якраз вусікі.
- Адразу бачна, што не нашы. Да чаго дадумаліся - вусаты палец. Ну нічога, рваца мо не так будуць. Казала аднаразовыя. Змажу ўнутры алеем, каб лепш налазілі і за працу з бабай. Пайду парадую старую!

# ПЯКНОТЫ ГЛЫБОЦКАЕ МОВЫ

На хвалі гарбачоўскай перабудовы на Беларусі знайшлося некалькі авантурыстаў, інсьпіраваных спэцслужбамі, якія на поўдні краіны, сярод палескіх балот знайшлі нейкую яцьвяскую мову, пачалі ствараць правапіс, друкаваць газэту. Ужо пайшлі размовы пра незалежнасьць яцьвяскага народа ад Беларусі, стварэньне самастойнае дзяржавы. Як белы дзень зразумела: пэўным колам патрэбна было стварыць у нас агмень напружанасьці па тыпу Карабаха ці Прыднястроўя. Хаця б неяк перашкодзіць Беларусі стаць на шлях незалежнасьці. Не атрымалася, але не таму, што слаба працавала КДБ, а з-за рахманасьці, абыякавасьці, нерашучасьці (мая хата - з краю, пасяджу ціха - пагляджу што ў вас атрымаецца) беларусаў да лёсу сваёй краіны. Ніхто не схацеў быць яцьвягам і ніхто з астатніх беларусаў не ўзяўся б за зброю, каб "уціхамірыць" сэпаратыстаў. Канфлікт не адбыўся!

Мы ня ставім на мэту стварыць нейкую "глыбоцкую мову" і адшукаць сярод глыбоцкіх азёраў рэліктавых крывічоў, ліцьвінаў, готаў, "паазёрцаў" ці вікінгаў, ды паразважаць аб незалежнасьці Глыбоччыны ад Беларусі. Мы складаем слоўнік тых слоў, якія праз стагодзьдзі дайшлі да нашых дзён. Гэта ёсьць нашым скарбам, нашай самасьцю. Глыбоччына ж - неад`емная частка Беларусі. Гістарычная Літва. Віленшчына.

**ХАЛТАМА** - чалавек, які робіць справу сьпяшаючыся, нязграбна, работа валіцца з рук. Яму звычайна кажуць:"Не халтамі!". Г.зн., рабі справу ахайна, не сьпяшайся.

**ПЭЙТАЦЬ** - парваць, парэзаць, прычым не акуратна. "Дзе ты так штаны апэйтаў?" Гэта мае сэнс: насіў адзеньне і дзесь парваў, напрыклад, аб цьвік. Сабутэльнікі, калі патаемна п`юць гарэлку, а закуску няма чым парэзаць, звычайна кажуць: "Давай хлеб і каўбасу пэйтай!" Гэта ў сэнсе: паламай рукамі на кавалкі.

**ЛАЦНО** - гэтае слова сустракалася ў помніках сярэднявечнага беларускага пісьменства - у "Статуце Вялікага княства Літоўскага Рускага й Жамойцкага". "Лацно Пятроўскім, ім усе дапамагаюць, і нявесткі і зяці!" Лацно, значыць - лёгка жыць.

**ЛАЦЬВЕЙ** - вытворнае ад слова лацно. Лацьвей, г. зн., лягчэй.

**ВАГАРЫ** - не пайсьці на заняткі ў школу (тэхнікум, інстытут), а басьціяцца недзе (у лесе, у парку). "Сёньня - кантрольная па матэматыцы. Ідзём у лес на вагары!"

**КУРМЕЛЬ** - невялікая рыбка, па-расейску -"пескарь", паводле літаратурнае беларускае мовы - пячкур. Гэтае слова сягае аж за межы сучаснае Беларусі, на абшары Пскоўшчыны. Вядома яно ў ваколіцах Себежа, Веліжа...

**ВЯГАЛ** - рыба сямейства трасковых, па-расейску - налим, паводле літаратурнае мовы - мянтуз. Слова вядома й на беларускіх абшарах Пскоўшчыны.

**БАЦЯН** - па-расейску - аист, паводле беларускае літаратурнае мовы - бусел. Самы папулярны глыбоцкі тост: "Хай жыве й пасецца беларуская птушка бацян!" Слова вядома й на Пскоўшчыне.

**РОВАР** - веласіпед. Ня звыкла ў нас гучыць слова "веласіпед", гэта так сама, як на каня сказаць "лошадь". Гэта ёсьць наша заходне-беларуская самасьць. З-за "ровара" глыбачанаў на Полаччыне завуць "пшэкамі", "не дабітай шляхтай". Але мы ёсьць глыбачане, і веласіпед завём роварам.

**ЮРГІНЯ** - па-расейску - георгины, згодна літаратурнай мовы - вяргіня. Калісь юргіны расьлі пад вакном кожнае глыбоцкае хаты. Як толькі нехта пачаў іх зваць георгинами - яны адразу зьніклі з клюмбаў. Губляюцца традыцыі, старэйшыя глыбачане адыходзяць у лепшы сьвет...

**ПЕКНЫ** - прыгожы. У нас гэтае слова хоць і адпавядае сэнсу - прыгожы, але мае больш вытанчанае адценьне і адпавядае расейскаму слову "прелестный". Пекная дзяўчына, пекная кветка, пекны касьцёл. Усё, што ніжэй па густу, глыбачане завуць русізмам - "красівы". Красівыя чаравікі, красівая машына. Але трэба спадзявацца, што замест русізму хутка будзе ўжывацца і слова "прыгожы".

**Ул. Скрабатун**

# РАЗ-ДВА, РАЗ-ДВА!

Шкада, што ў беларускай мове не існуе такога кантравэрсійнага панятку, як слэнг, які жывіць гутарковую мову. Адсутнасьць слэнгу - гэта адсутнасьць ўжытку мовы простым народам. Беларуская мова ператварылася ў сродак камунікацыі інтэлігенцыі.

Тым ня менш, пра беларускі слэнг можна казаць як пра існаваўшую зьяву. Яшчэ наш зямляк Ластоўскі занатаваў такія словы, як чэляз, похва, пахно. Першыя два яшчэ хтоколечы з пісьменьнікаў ужывае (чэляз я сустракаў у Глёбуса). Але як слэнг народа - гэта ўжо архаізмы.

А што ёсьць наш сучасны слэнг? У асноўным гэта запазычаныя словы з "великого и могучего", бо гэткіх брудных слоў у беларускай мове проста ніколі не было. Ёсьць запазычваньні й з захаду: распаўсюджаная ў вёсках фразэма "Каб цябе халера!", між іншым увайшла ў сучасны слоўнік польскага слэнгу. Самая пашыраная маладзёвая эксклямацыя "файна" паходзіць (паводле Oxford Reference Dictionary) з старафранцускага *fin* і лацінскага *finire*. Гэтае слова ёсьць і ў немцаў *fein* і ў ангельцаў fine і ў палякаў *fajny*. Беларускае (!) слэнгавае слова я сустрэў пакуль толькі адно: у беларускіх клясах замежную мову дзеці называюць "замежкай".

Ня ведаю, ці можна да слэнгу аднесьці слова "савок", але яго трэба патлумачыць. Савок - гэта чалавек з савецкай мэнтальнасьцю, савецкасьць на падсьвядомым узроўні. Уявіце: па панадворку садка крочаць ваенным шыхтам дзеці пад камандаваньнем выхавальніцы: "раз - два, раз - два..." Па панадворку крочаць маленькія салдаты (як у Оруэла). Выхавальніца дае ім тое, чаму яна навучалася ў савецкай школе. Над садком лунае карычнява-зялёны дух "саўка".

"Савок" выкінуў зь беларускае мовы словы, якія нас адрозьнівалі ад "Старшего Брата" (слова ў слова, як у Оруэла!). Забыліся словы Ластоўскага, а ягоныя лексэмы маюць вывучаць дзеці ў школах. Дзякуючы "саўку", мы ня маем свайго сапраўднага беларускага слэнга. А быў жа! Гутарковае слова "капсыль" Ластоўскі занатаваў у Глыбокім. Ягоны літаратурны адпаведнік "кішэнь". Літаратурнае слова "жарсьць" было спачатку лякальным і гутарковым. Яго наш зямляк запісаў у Празароках.

**Гандрось Лёгас**

# НА ВАКАЦЫЯХ У ВКЛ

Я прачнуўся ў маёй марсыянскай кватэры сьпякотным жнівеньскім днём. Мая аўтаматызаваная "мікрахвалёўка" ужо прыгатавала мне сьняданак, але есьці неяк не хацелася. Надакучылі гамбургеры па-марсыянску. Дзіўна! Сёньня мне ня трэба было ісьці ў пыльную шахту, ня трэба было кіраваць дзясяткамі робатаў, якіх, як малых дзяцей нельга пакінуць бязь пільнага нагляду. Мой хатні андроід тупа чакаў майго загаду.

Я пайшоў у ванную, уключыў ваду і прапаласкаў горла. Так, сёньня першы дзень вакацый...

Я сядзеў ва ўтульным фатэлі міжплянэтнага авіяляйнэра Mega Shuttle B-75. У маёй кабінцы мне прапанавалі толькі перакуску і зь мільёны са два праграмаў тэлевізіі Аб`яднаных Нацый Плянэты Зямля. Сум!!!

Вось і родныя мясьціны! О, іх не пазнаць: высотныя дамы, робаты, атмасфэра забруджана менш, чым на Марсе. І гучыць нейкая дзіўная мова.

Я нарадзіўся ў 2179 годзе ў горадзе Глыбокае , але нічога падобнага ня чуў. Мая краіна, былая Белая Россия зноў завецца неяк дзіўна - ВКЛ, ды сталіца ня ў Менску, а ў Вільні. Калі я эміграваў на Марс, тут яшчэ панаваў нейкі сыбэрны рэжым. За маёй сям`ёй сачылі, і аднойчы ў дзьверы маёй кватэры пастукалі... Выратаваўся толькі я.

Панаваньне рэжыму скончылася 3-й Сусьветнай вайной, пасьля якой і зьявілася глябальная краіна АНПЗ. Паміры-ліся ўсе, калі скінулі з тузын бомбаў і зразумелі: выжывем толькі разам. Рэжым зь ягонай дзяржаўнай "русской" збрыд усім, і таму усе пачалі вывучаць архаічную беларускую мову, нават рускія, украінцы, летувісы, латышы. Зноў стварылі ВКЛ, як аўтаномію ў АНПЗ. Маё роднае Глыбокае ператварылася ў Downtown, сталіцу АНПЗ, мо таму, што тут было на дзіва чыстае паветра, а вялікія гарады былі разбураныя бомбамі.

Там, дзе стаяў мой дом узьвялі трохмэтровую статую Ластоўскаму. І нават мне забітаму англамоўнаму шахцёру з фанабэрыстым марсыянскім акцэнтам захацелася жыць і размаўляць на беларускай мове, найпрыгажэйшай на плянэце Зямля!

**Alien**

# ЧАКАНЬНЕ КНІГІ

Прынамсі шэсьць аўтараў з Глыбоччыны, якія яшчэ ня маюць сваіх кніжак, пры спрыяльных умовах маглі б выдаць іх.

Людміла Андзілеўка зьдівала абазнаную сталічную літаратурную публіку сваімі "Абразкамі" у "ЛіМе". Яна назапасіла ўжо твораў на ладную кніжку.

Язэп Бунто, краязнаўца-гісторык, піша на ўзроўні кандыдата навук артыкулы ў энцыкляпэдыі. Лягічным працягам яго шматгадовых росшукаў магла б стацца кніга гістарычных нарысаў пра наш край, што ня могуць натуральна цалкам патрапіць на старонкі энцыкляпэдычных выданьняў. Ці наважыцца сп. Бунто на гэткую справу?

Уладзімер Скрабатун, рамантык-гісторык, можа даць фору Ул. Арлову ў адмысловай падачы фактаў нашай мінуўшчыны. Кніжку "Глыбокае на старых паштоўках" ён падрыхтаваў для выданьня і ёсьць добрыя шанцы, што мы яе пабачым у кнігарнях. Безумоўна, сп. Скрабатун здольны на выданьне больш глябальнай кнігі. Дастаткова хаця б сабраць усе ягоныя публікацыі ў шматлікіх выданьнях ці не з усяго сьвету.

Галіна Сутула паказала мне аддрукаваны рукапіс на цэлых тры кніжкі. Застаецца спадзявацца, што "Народная газета" падтрымае свайго аўтара.

Валерыя Тарыкава мала хто ведае як аўтара. Між тым, ён піша... філязофскія трактаты пра Душу і Каханьне. Адметна, што гэтая філязофія мае, паводле В. Тарыкава, дастасоўнае значэньне ў ягонай практыцы доктара-псыхатэрапэўта. Але яна выглядае самакаштоўнай і дужа цікавай сама зь сябе.

Андрэй Храпавіцкі мае самадрукаваначку пад назовам "Звышдоза", дзе ён адлюстраваў сваё паэтычнае ўспрыманьне часу й сьвету.

Глыбоччына цяжарная кнігамі ці не з часоў Скарыны. Мы яшчэ ня ведаем іхняга поўнага пераліку. Але ня трэба замоўчваць свае кошты! Справа першадрукара мусіць працягвацца, бо яна ёсьць нашай справай.

**Янка Сяргейчык**



# АЛЬТЭРНАТЫВА

Здаецца яшчэ ўчора наш блакітны экран мог прапанаваць толькі два каналы, а пра тэлевізар з дыстанцыйным кантролем можна было толькі марыць. Прайшлі тыя часы і з развалам СССР колькасьць тэлеканалаў пачала расьці як ядравы грыб. Безумоўна, Расея займае першае месца па папулярнасьці сярод былых рэспублік. Акрамя вядомых ГРТ і РТР зьявіліся НТВ, чатыры, нажаль, закадаваных каналы НТВ+ , ТВ6 Масква, ТВ3 Масква, ТВ6 Санкт-Пецярбург і йнш. Апошнія прымаць могуць толькі ўладальнікі сістэм спадарожнікавай тэлевізіі (ССТ) і то ня кожны. Вялікая колькасьць тэлеканалаў, безумоўна, садзейнічае разьвіцьцю дэмакратыі і свабодзе слова, але, здаецца, у апошні час дзяржава заблыталася ў сьцежках і накіравалася ў іншы бок. Напрыклад, як вы думаеце, да чаго могуць прывесьці намеры закрыць ГРТ і ўвесьці БТ-2 - толькі да таго, што большасьць насельніцтва, якая ня мае матэрыяльнай магчымасьці прымаць іншыя праграмы, страціць доступ да аб`ектыўнай інфармацыі аб падзеях у сьвеце і ( што самае галоўнае) у краіне.

Але ж мы жывём ня ў бочцы, а пад небам, якое адкрыта аднолькава для ўсіх. На шчасьце, з дапамогай ССТ можна прымаць ўсё, што зьбіраюцца забараніць і, нават, больш. Напрыклад, нават тыя, хто не валодаюць мовамі, зразумеюць амаль усё на тэлеканале EURONEWS, эўрапэйскім канале навінаў. Такая перадача, як "No Comment" (Без камэнтару) прапануе толькі падзеі і магчымасьць зрабіць вывады самому. Тыя, хто цікавіцца новымі тэхналёгіямі й вынаходкамі, задаволіць свае інтарэсы на канале EBN (Эўрапэйскія Бізнэсовыя Навіны). Eurosport спадабаецца аматарам спорту. Акрамя гэтага: для мэляманаў - VIVA, VIVA-2 і Onyx, пра жывёл - Animal Planet, вячэрнія шоў, навіны ў сьвеце культуры й кампутараў - NBC. Для больш заможных грамадзян ёсьць больш складаныя ССТ, якія прымаюць закадаваныя каналы: FILMNET, Cartoon Network ( мультфільмы), CNN, Travel (падарожжы), Eurotica і йнш. Як бачыце, выбар у нас ёсьць, але йснуюць дзьве праблемы: валоданьне мовамі й грашыма. У нашай краіне сумленнаму чалавеку складаней завалодаць апошнім, таму й няма беларускіх незалежных тэлестанцый.

Выходзьце, спадары, у космас!

**Viewer**

# Заставайцеся са СВАБОДАЙ

**Гэтыя словы Вы можаце пачуць штодзень, калі ўключыце свой кароткахвалевы радыёпрыймач а 6-й, 18-й, 22-й гадзінах на хвалі 41 м і частаце 7295 кГц.**

**Найцікавейшыя праграмы беларускай службы радыё "СВАБОДА":**

**С. Дубавец "Казкі жыцьця" - нядзеля, 19.10**
**М. Іваноў "Эўрапэйскі кантэкст" - серада, 19.10**
**В. Вячорка "Неабжытая спадчына" - чацьвер, 19.10**
**Праграма для моладзі - пятніца, 19.10**
**"Праскі акцэнт" - нядзеля, 18.10**




**Беларуская рэдакцыя Польскага Радыё**

кожны дзень на кароткіх хвалях:
а 14.30 - 41,18 м і 50,04 м (1285 кГц і 5995 кГц)
а 16.30 - 41,27 м і 49,22 м (7210 кГц і 6095 кГц)
а 20.00 - 41,78 м і 50,72 м (7180 кГц і 5915 кГц)

**САПРАЎДНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ НА САПРАЎДНАЙ МОВЕ**

# НАША НіВА

## Легенда беларускай прэсы ў Глыбокім

Актывісты Глыбоцкай суполкі Таварыства беларускае мовы плянуюць у кастрычніку бягучага года правесьці сустрэчу з выдаўцамі і аўтарамі легендарнай газэты "Наша Ніва". "Першай беларускай газэты з рысункамі", як сказана ў анатацыі гэтага выданьня пачатку XX ст. Мяркуецца, што на сустрэчу прыедзе гісторык і пісьменьнік Уладзімер Арлоў, бард Зьміцер Бартосік, супрацоўнікі рэдакцыі Сяргей Харэўскі і Алег Дзярновіч.

Як задумана, сустрэча можа аказацца цікавай і зьмястоўнай. Сачыце за абвесткамі!

Каб замовіць кнігу "Гарт" (гл. с11), трэба пералічыць 66 тысячаў рублёў на наступны рахунак:
*БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант", філія АКБ "Поиск", г. Менск, код 987.*
Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" пазначыць: "падпіска - СБП" і Ваш дакладны паштовы адрас.

***Увага!***
***У Моладзевым Цэнтры***
(вул Камуністычная, 6; 2 паверх)
***працуе***




***ФАТАГРАФІЯ***
каляровыя і чорна-белыя здымкі
для дакумантаў
*(новыя пашпарты, пасьведчаньні, правы і г.д.)*
***Для каго істотныя ХУТКАСЬЦЬ І ЯКАСЬЦЬ***
***запрашаем у Моладзевы цэнтар***
***ва ўсе дні з 9 да 18 г, абед з 13 до 14 г***

9 верасьня 1951 г пад Маладэчным прызямліўся парашутыст... Яго адзінай любоўю была Беларусь. Яго адзінай стыхіяй было змаганьне за волю і незалежнасьць. Сябры параўноўвалі Янку Філістовіча з Кастусём Каліноўскім, суайчыньнікі ніколі ня чулі ягонае імя.
*Кніжку* **"Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста"** *можна прыдбаць у шапіку ТБМ у Маладэчна, ва Управе БНФ (вул. Варвашэні, 8) або замовіць праз газэту "Наша Ніва" (гл. абвестку пра "Гарт", кошт 26 т. рублёў).*

# ЗВАРОТ

**Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы да праваслаўных беларусаў, сапраўдных патрыётаў зямлі сваёй**

Браты беларусы, годзе нам, народу старажытнаму, бадзяцца, ня маючы сваёй Нацыянальнай Царквы, топчучы двары чужых бажніц і шукаць Божае ласкі, ідучы за "духоўнымі" правадырамі чужых краін, якія болей радзеюць за свае дзяржавы, а не за чужы ім беларускі народ.
Усім у сьвеце вядома, што наяўнасьць у народа сваёй нацыянальнай царквы - ёсьць найвышэйшая форма праявы яго духоўнай, культурнай і палітычнай зрэласьці. Адсутнасьць жа такой царквы сьведчыць аб псыхічнай недасканаласьці нацыі і яе няздольнасьці мець зносіны з Богам без пасрэдніцтва сьвятароў суседніх народаў, якія выкарыстоўваюць Біблію як сродак палітычнай і культурнай барацьбы супраць духоўнай незалежнасьці нашай краіны.
Ня маючы сваёй Нацыянальнай Праваслаўнай Царквы, мы павінны прызнаць адсутнасьць у нас магчымасьці трывалых і непарушных зносін з Богам, а адсюль немагчымасьць атрымаць ад яго дабраславеньне і дапамогу ў нацыянальным і дзяржаўным будаўніцтве. Але ж Госпад хоча, каб мы, Беларусы, былі зьяднаныя ў Сьвятую Беларускую Праваслаўную Царкву, служылі Яму, як служаць іншыя народы і мелі дабраславеньне ва ўсіх добрых справах на зямлі нашых продкаў, Богам дадзенай нам у спадчыну на вякі вякоў. Амінь.

**Менск, 1997 г.** **Адрас: 220068, Менск-68, а/с 18**

# МЫ ЁСЬЦЬ У ЭЎРОПЕ



ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ Рэг. нум. 1108 Друкарня "Arbor", 3, I. Мележа вул; г. Мінск Наклад 499 Падпісана у друк 15.08.97